PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 22 (2142) Год XLII Беласток 1 чэрвеня 1997 г. Цана 1 зл.



*Помнікі нашай спадчыны ў фотааб'ектыве Уладзіслава ЗАВАДСКАГА.*

# Многія з нас дагналі канец XX стагоддзя

**З Уладзімірам ЛУКОШЫКАМ з Гарадка аб малочнай прадукцыі і ліберальнай эканоміцы**

***— Некалькі гадоў таму Вы, паказваючы недаконачаную абору, наракаючы сказалі мне, што пэўне ж ніколі яе не скончыце. Усё такі скончылі.***

— Яшчэ не скончыў. Ці ж так многа набудуеш? Усё зроблена ледзь не другі раз. У 1994—95 гадах перарабілі яе нанава, бо ў цэлым перайшлі на новую тэхналогію. Зліквідавалі подсцілку, з гною перайшлі на гнаявіцу, увялі трубаправодную даільную машыну і новы зборны халадзільнік для малака. Да таго многа іншага: септык, помпа, асенізацыйны воз, прычэп для гнаявіцы, нямецкая машына для сіласавання сена, новы трактар (трэці) і прыбор для даставання сіласу.

***— Такое мусіла каштаваць. Адкуль на гэта грошы?***

— Я іх не зарабіў і ў колішніх варунках не зарабіў бы. Ад 1995 г. увайшлі новыя крэдыты і мы бралі першыя пазыкі на 20%, а не сплачаныя перамянялі на 10%. Гэта адпаведна пазыкам „бранжовым" на развіццё малочнай прадукцыі.

***— На якіх умовах давалася такая пазыка?***

— Трэба было нешта мець. У мяне быў будынак і каровы. З 1994 па 1996 год мы падвоілі колькасць кароў з чатырнаццаці на трыццаць малочных кароў.

Поўнасцю кінулі гадаваць бычкоўкормнікаў. За 1996 год прадалі 113,5 тыс. літраў малака, амаль усё экстра першага сорту за самую высокую цану. Сёння пры 4% тлушчу гэта 77 грошаў за літр. Укладваючы ў гаспадарку чужыя грошы ў кароткі час можна было ўсё зрабіць. А пры такой вытворчасці сплачваць даўгі гэта ўжо не праблема.

***— Усё ж такі трэба крыху адвагі, каб на гэта рашыцца?***

— Усё было б немагчымае для аднаго гаспадара, для аднаго чалавека ў гміне. Усё прайсці лягчэй, калі адначасова робіць гэта большая група гаспадароў.

***— І Вы належыце да такой групы?***

— У нашым выпадку гэта называецца Кааператыў малочнай прадукцыі „Верхняя Супрасль". Назва такая, што мы гаспадарым у вярхоўях ракі Супраслі і аб'ядналі сілы гаспадароў з гмін Гарадок і Міхалова. Кааператыў налічвае 33 членаў, ад 30 ужо бяруць малако. Трох, казаў той, у дарозе: перарабляюць будынкі, рыхтуюць месца на халадзільнікі, робяць даезды і г.д. Першы „навічок" будзе гатовы ўжо ў гэтым месяцы, наступных двух — у будучым.

***— Ці крэдыты атрымоўваеце праз кааператыў?***

— Не, крэдыт кожны браў сам, а як група мы афармляем многа іншых важных спраў. Таргавалі ўсюды цану ўсяго ад групы. Разам ездзілі на экскурсіі — паглядзець як працуюць іншыя. Наладжвалі кантакты з усімі магчымымі арганізацыямі, якія маглі б нам дапамагчы. Групай робім закупкі. Вось сёння я быў у хімічнай краме, заказаў 65 рулонаў чорнай поліэтыленавай плёнкі для сіласу. За тое, што закуп зроблены для цэлай групы, прывязуць усё на месца.

***— Каму прадаяце малако?***

— Беластоцкаму малочнатаварнаму кааператыву „Мітэкс". Цана залежыць ад якасці і колькасці. З гэтага года вытаргавалі мы большую цану. У нашага скупшчыка ёсць адмысловыя цэнавыя парогі. Найбольшая даплата — пры парозе звыш 8 тыс. літраў малака ў месяц, і ў гэтым малаку менш чым 100 тыс. бактэрый. Многа членаў нашага кааператыва выпаўняе гэтыя варункі.

***— А што маеце з гэтага як кааператыў?***

— У „Мітэксе" ёсць і невялікая даплата на кааператыў. Яна залежыць ад таго, колькі разам прадукуем: 1 грош за літр ад 100 да 200 тыс. літраў малака,

[працяг ☞ 3]

# Выбарчая панарама Беласточчыны

Яўген МІРАНОВІЧ

Хаця парламенцкія выбары адбудуцца недзе ў палове верасня, ад некалькіх месяцаў усе палітычныя групоўкі на Беласточчыне вельмі актыўна рыхтуюцца заняць адпаведнае месца для старту ў гонках да пасольскіх і сенатарскіх крэслаў. Зразумела, што найбольш відаць і тут самых магутных удзельнікаў спаборніцтваў — Выбарчую акцыю „Салідарнасць" і Саюз левых дэмакратаў. Абодва палітычныя блокі складаюцца з дзесяткаў меншых арганізацый і кожны з мясцовых лідэрыкаў, якія іх узначальваюць, хацеў бы быць прынамсі другім, ці нават трэцім, на выбарчым спіску свайго лагера. Першыя месцы заняты неаспрэчванымі правадырамі. За Цімашэвічам стаіць яго асабісты аўтарытэт, дасведчанасць і дзяржаўны апарат, якім ён кіруе. За Мазалеўскім — касцельная прапаганда і клерыкальна-нацыяналістычны, дамінуючы тут, электарат. Палітычныя назіральнікі прадбачваюць, што кожны з гэтых блокаў — салідарніцкі і посткамуністычны — возьмуць у беластоцкай акрузе па 2 пасольскія мандаты. Тры мандаты — паводле апошніх зандзіраванняў грамадскай думкі — астаецца да падзелу паміж Рух адбудовы Польшчы, Польске стронніцтво людовэ, Унію працы і Унію вольнасці. Іншыя партыі маюць тут маргінальнае значэнне. Сотні знакамітых кандыдатаў на палітыкаў і толькі сем пасольскіх крэслаў. Сенатарскія не маюць ужо такой прывабнасці, хаця пару дзесяткаў кандыдатаў ахвотных змагацца за іх напэўна знойдзецца.

Упершыню ад 1989 года ў гэтых выбарах нічога не чуваць пра планы стварэння Беларускага выбарчага камітэта. Наш знакаміты электарат да гэтай пары ніколі не давяраў сваім — беларусам. Калі ўжо рушаў галасаваць, тады абавязкова аддаваў свой голас у падтрымку Цімашэвічу. Невядома чаму, але выклікаў ён у „нашага" выбаршчыка насталгію па камунізме і надзею на яго вяртанне. „Беларус" асацыяваўся „нашаму чалавеку" з нейкім дзіваком, часам нацыяналістам, ці проста з не зусім нармальным чалавекам. Кожны „нармальны" час ад часу бывае беларусам, *ale tak na co dzień czuje się Polakiem.* Беларускія арганізацыі самім сваім існаваннем парушаюць камфартабельную — з пункту гледжання „нашага" — сітуацыю. Да гэтай пары ніхто яго не прымушаў, у якой-небудзь форме, заяўляць пра сваю нацыянальнасць. Сёння ва ўсіх сродках масавай інфармацыі гучыць лозунг, што сапраўдны паляк — гэта каталік. Большасці „нашых" цяжкавата так прыходзіцца аб'яўляць пра сваю польскасць. Вельмі практычны падыход да

[працяг ☞ 4]

# Мы прачыталі

*Od zakończenia wojny minęły właśnie 52 lata, a co roku kolejne kilkadziesiąt osób ubiega się o status kombatanta lub osoby represjonowanej. Organizacji kombatanckich wciąż przybywa i jest ich już znacznie więcej niż było formacji wojskowych i konspiracyjnych podczas wojny. Nikt dokładnie nie wie ilu mamy zasłużonych bojowników, wiadomo tylko, że ich liczba z roku na rok rośnie. Prawie dwie trzecie mężczyzn w wieku ponad 70 lat to bojownicy. Co trzecia wdowa w tym wieku otrzymuje rentę po kombatancie. Przybywa coraz więcej osób, które nie tylko z urojenia, ale z wyrachowania, aby podwyższyć emeryturę lub rentę, po latach piszą sobie kombatanckie życiorysy. Wielu należało do partyzanckich oddziałów, które powstały na papierze. Pół wieku po wojnie do urzędów weryfikacyjnych zgłaszają się byli kilkuletni łącznicy, kurierzy, sanitariuszki, nauczycielki, które uczyły dzieci sąsiadów. W 2005 r. zrówna się liczba kombatantów oraz ich podopiecznych uprawnionych do świadczeń.*

*Polityka, nr 19*

Сем'і „Бурага" ці „Лупашкі" — вядомых змагароў за „свабоду" і „дэмакратыю" — таксама атрымаюць адпаведныя кампенсацыі. Вазакі памардаваныя ў Пухалах ці жыхары Заняў не былі аднак „барацьбітамі".

* * *

*Współczesna Wielka Brytania nie jest krajem purytańskim, broń Boże, ale alergicznie reaguje na kłamstwo. Ludzie z pierwszych stron gazet, którzy głoszą szczytne idee w godzinach pracy, a wieczorem robią swoje, są tam bardzo surowo oceniani. Polska tolerancja krętactw w życiu publicznym jest w Anglii czymś niepojętym. Tam człowiek sprawujący ważne funkcje, który kłamie i zostaje na tym złapany, traci wszystko: szacunek, pozycję towarzyską, urząd, niekiedy majątek. Kłamstwo jest zbrodnią i nawet jeśli prawo nie zawsze je ściga, opinia publiczna karze sprawców okrutnie. Klęska konserwatystów jest kolejnym optymistycznym tego dowodem.*

*Kurier Poranny, nr 106*

У Англіі, хаця няма канстытуцыі, ёсць дэмакратыя. У нас — наадварот.

* * *

*Trwa „społeczna dyskusja" na temat statutu unii rosyjsko-białoruskiej. W jej ramach Łukaszenko wziął udział w programie transmitowanym bezpośrednio przez rosyjską i białoruską telewizję. Jako głównych wrogów zjednoczenia oskarżył „nieuczciwe" rosyjskie programy TV, które niewłaściwie informują o Białorusi i jej prezydencie. Łukaszenko jest zdania, że rosyjskie media powinny odnieść się z szacunkiem do przywódcy bratniego państwa. Później oskarżył polityków moskiewskich, którzy nie spieszą się z powołaniem wspólnego państwa. Białoruski prezydent odrzucił też oskarżenia na temat nieprzestrzegania praw człowieka w jego państwie. Ludzie mają prawo do pracy — oświadczył.*

*Gazeta Wyborcza, nr 109*

* * *

*Terror był wpisany w logikę państwa sowieckiego, które powstało po 1917 r. Gdyby w latach trzydziestych żył jeszcze towarzysz Ulianow lub rządził Trocki, przed lufy plutonów egzekucyjnych posyłano by ludzi równie masowo, jak to czynił Stalin. Osławione czystki byłyby zapewne mniejsze w przypadku gdyby istniała normalna rotacja władzy. Tymczasem w warunkach braku demokracji wchodzono do jej elity nie poprzez kartki wyborcze, ale po trupach poprzedników. Na tym wyrosła potęga Stalina, ponieważ dawał on szanse awansu setkom tysięcy ambitnych i bezwzględnych karierowiczów.*

*Polityka, nr 19*

* * *

*Na Białorusi Łukaszenko „upaństwowił" adwokatów. Wszyscy oni mają przejść egzamin przed specjalnymi komisjami państwowymi, a następnie muszą wstąpić do zespołów adwokackich, które podlegają ministerstwu sprawiedliwości. Czyni to adwokatów urzędnikami państwowymi i pozbawia obywateli Białorusi prawa do obrony.*

*Gazeta Wyborcza, nr 111*

* * *

*W Sejnach volkswagen golf prowadzony przez pijanego księdza zniszczył słup wysokiego napięcia. Słup przewrócił się do rzeki. Huk usłyszała mieszkająca w pobliżu córka komendanta policji. Tata, rzeka się pali — wystraszona krzyczała do ojca.*

*Kurier Poranny, nr 109*

На шчасце, набожнаму айцу нічога дрэннага не сталася. Але штраф парафія вымушана будзе заплаціць велічынёй у 800 мільёнаў старых злотаў.

* * *

*Tę olbrzymią akcję mówienia ze stopni ołtarzy politycznych kłamstw, dawanie fałszywego świadectwa prawdzie o konstytucji uważam za wielką klęskę moralną naszego kleru katolickiego. Nie jestem w stanie pojąć dlaczego polskim biskupom trudniej jest ułożyć stosunki z demokratycznie wybranymi władzami wolnej Rzeczypospolitej niż ongiś z władzami państwa totalitarnego jakim była PRL,* — сказаў віцэ-маршалак Сейма Аляксандр Малахоўскі.

*Wiadomości Kulturalne, nr 19*

* * *

*W życiu politycznym obserwujemy objawy straszliwego schamienia. Niepokoi to, że mało kto tym się niepokoi. Chamom trzeba wyraźnie powiedzieć: jesteście chamami.*

*Gazeta Wyborcza, nr 112*

Не верым у тое, што знойдзецца такі адважны, каб хама назваць хамам.

# З мінулага тыдня

**Дні культуры Беларусі ў Польшчы** праходзілі ў Варшаве ў днях 18—26 мая г.г. Самым вялікім здарэннем быў гала-спектакль Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь „Страсці (Рагнеда)" у рэжысуры і харэаграфіі **Валянціна Елізар'ева**. У рамках мерапрыемства можна было яшчэ паслухаць сольны канцэрт на фартэпіяна **Андрэя Паначэўнага**, канцэрты Дзяржаўнага камернага аркестра, вакальнага калектыву „Чысты голас" і харэаграфічнага калектыву „Харошкі", паглядзець выставу жывапісу з калекцыі **Вітольда Бялыніцкага-Бірулі** і лепшыя беларускія кінакарціны. У Любліне з гэтай нагоды адбыліся таксама Дні беларускага кіно і канцэрт Андрэя Паначэўнага.

**У 42-м Міжнародным кніжным кірмашы ў Варшаве** удзельнічала беларуская дэлегацыя на чале з намеснікам старшыні Дзяржаўнага камітэта па друку **Станіславам Нічыпаровічам**. Дэлегацыю складалі дырэктары і галоўныя рэдактары вядучых дзяржаўных і камерцыйных выдавецтваў. У беларускай экспазіцыі прадстаўляліся лепшыя выданні беларускай літаратуры за 1995—96 гады. У рамках кірмашу адбыліся прэзентацыі найбольш адметных выданняў, у тым ліку 18-томнай Беларускай энцыклапедыі.

**Пульс першабытнай пушчы** („Tętno puszczy pierwotnej") — так называецца прысвечаны Белавежы першы том выдавецкай серыі „Polskie Parki Narodowe" выдавецтва „Muza", які прэзентаваўся на 42-м Міжнародным кніжным кірмашы ў Варшаве.

**Пронар** з Нарвы апынуўся на 384 месцы сярод пяці сотень найбольш прыбытковых прадпрыемстваў 1996 года ў рэйтынгу штотыднёвіка „Палітыка". Фірма з'яўляецца суполкай з абмежаванай адказнасцю, у якой большасць паёў мае адзін з самых багатых людзей у Польшчы **Сяргей Мартынюк**. Гадавы даход Пронару дасягнуў 180,6 млн. зл., а прыбытак брута — 13,3 млн. зл. Працуе ў ім 355 чалавек. Прадпрыемства займаецца зборкай трактароў Менскага трактарнага завода, гандлюе палівам (мае сваю сетку аўтазапраўачных станцый) і сельскагаспадарчымі таварамі з краінамі СНД. З Беластоцкага ваяводства ў згаданым рэйтынгу значацца яшчэ чатыры прадпрыемствы з самога Беластока: Польмос (126 месца), Энергетычнае прадпрыемства (164), Мясакамбінат (216) і ПСС Сполэм (360).

**У Райску** Бельскай гміны адбыліся гмінныя спартыўна-пажарныя спаборніцтвы з удзелам 15 пажарных каманд. Перад гульнямі пажарнікі ўшанавалі памяць 149 жыхароў вёскі расстраляных гітлераўцамі ў 1942 г. — у 55 гадавіну трагедыі ўсклалі кветкі да помніка загінуўшым. У ходзе мерапрыемства **Тадэуш Васілеўскі** з Лубіна-Касцельнага і **Анатоль Верамяюк** з Ягушова былі ўзнагароджаны залатымі пажарнымі адзнакамі.

**У Ялоўцы** прабываў лідэр Самаабароны **Анджэй Лепэр**, які заклікаў сялян не падпісваць дагавораў на продаж зямлі пад будову транзітнага газаправода з Расеі ў Заходнюю Еўропу. Усходнюю граніцу Польшчы газаправод перасячэ ў Кандратках, якія ляжаць у двух кіламетрах ад Ялоўкі. У сустрэчы ўдзельнічала некалькі дзесяткаў навакольных сялян. Усе ўдзельнікі сустрэчы атрымалі дэкларацыі Самаабароны, а яе лідэр заахвочваў запісвацца ў ягоную арганізацыю, якая займецца абаронай іхных правоў. У Ялоўцы стварыўся нават камітэт з трох чалавек, які будзе прадстаўляць членаў арганізацыі.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Свята Жыровіцкай Іконы Божай Маці — рэпартаж Міколы Ваўранюка.
- Залатыя рукі Аляксандра Сянкевіча з Граматнага — рэпартаж Аляксандра Вярбіцкага.

# Весткі з Беларусі

**Суверэнітэт — сур'ёзная справа**

Суверэнітэт — інструмент, які дазваляе захаваць здольнасць уплываць на свой лёс, таму ўсялякія спробы ўключэння Беларусі ў склад Расеі — непрымальныя, — сказаў радыёстанцыі „Рэха Масквы" памочнік прэзідэнта Беларусі па палітычных пытаннях Сяргей Посахаў. Згодна з яго словамі, большасць расейскіх палітыкаў не падтрымлівае ідэі палітычнага аб'яднання дзвюх дзяржаў, выступаючы за стварэнне такога саюза, пры якім Беларусь і Расея захоўвалі б свой суверэнітэт.

**Саюз, а не федэрацыя**

Прэс-сакратар кіраўніка беларускай дзяржавы Валерый Талкачоў даў зразумець, што прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка не прымае прапаноў аб уключэнні Беларусі ў склад Расеі. Па яго словах, прэзідэнт заявіў аб тым, што будзе цвёрда стаяць на сваёй пазіцыі, якая заключаецца ў тым, што саюз Беларусі і Расеі — гэта саюз дзвюх краін, а не федэрацыя. Растлумачыў ён таксама, што прапанова аб федэрацыі звужае рамкі статута і дагавора аб саюзе дзвюх краін, закрывае шлях для ўступлення ў саюз іншых дзяржаў.

**Асобная каманда**

Беларусь і Расея застануцца суверэннымі дзяржавамі і будуць мець свае нацыянальныя алімпійскія камітэты і выступяць на алімпійскіх гульнях асобнымі камандамі, — такое паведамленне зрабіў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, выступаючы ў Менску на алімпійскім сходзе, на якім ён быў выбраны кіраўніком Нацыянальнага алімпійскага камітэта. Аляксандр Лукашэнка заявіў аб гатоўнасці выдзеліць 3—5 млн. дол. ЗША для ўдзелу беларускіх спартсменаў у зімніх і летніх алімпійскіх гульнях 1998 года ў Нагана і Сіднеі. Прэзідэнт мае таксама намер назначыць спонсараў для найболш перспектыўных спартыўных каманд рэспублікі.

**Лебедзь у Менску**

Саюз Беларусі і Расеі патрэбны, і патрэбны менавіта сёння; ён адпавядае інтарэсам абедзвюх краін, — заявіў у Менску былы сакратар Савета Бяспекі РФ Аляксандр Лебедзь. На яго думку, стварэнне саюза немагчыма ацаніць грашыма. Ёсць мера больш высокая — духоўная. У Менску Лебедзь сустрэўся з дзяржаўным сакратаром СБ Віктарам Шэйманам і наведаў Вострай Слёз, дзе ў мінулым годзе быў адкрыты помнік воінам, якія загінулі ў Афганістане.

**Місія ЕС прапануе дапамогу**

У Менску знаходзілася місія Еўрапейскага Саюза. Прайшлі сустрэчы ў Адміністрацыі Прэзідэнта, Міністэрстве замежных спраў і ў парламенце. Адбылося таксама спатканне са старшынёй камісіі па заканадаўству Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Юрыем Малумавым. Ары Коста — упаўнаважаны старшыні ЕС звярнуў увагу на тое, што Еўрасаюз мае намер прапанаваць сваю дапамогу Беларусі ў вырашэнні найбольш вострых палітычных праблем. Еўрапейскі Саюз зацікаўлены і ў тым, каб беларускі народ не быў ізаляваны ў сям'і еўрапейскіх народаў.

**Антырадыяцыйная рэдзька**

Кліматычныя ўмовы паўднёвага захаду рэспублікі вырашана выкарыстаць для вырошчвання ў Маларыцкім раёне новай цеплалюбівай культуры. Тут у калгасе „Запаветы Леніна" ўпершыню на двух гектарах высаджана японская рэдзька Дайкон. Земляробы супрацоўнічаюць са спецыялістамі Рэспубліканскай навукова-вытворчай асацыяцыі „Беларускае агароднінцтва". На думку японскіх спецыялістаў, рэдзька Дайкон вельмі эфектыўна выводзіць з арганізма радыенукліды.

**Лепшы кандытар**

Тое, што адзін з лепшых кандытараў у Еўропе жыве ў Брэсце, пацвердзілі вынікі IV Міжнароднага конкурсу кулінарнага мастацтва, які нядаўна прайшоў у Аўстрыі. Брэсцкі кандытар Таццяна Магірамава вярнулася адтуль дадому з залатым медалём і двума кубкамі. Перамога дасталася ёй у нялёгкім сапернічтве. У конкурсе ўдзельнічалі амаль 250 кулінараў з 16 краін. Аднак майстэрства брэстаўчанкі проста пакарыла членаў прадстаўнічага журы і шматлікіх гледачоў. Гэта ўжо другое паспяховае выступленне Таццяны Магірамавай на міжнародным узроўні.

# Многія з нас дагналі канец XX стагоддзя

[1 ☞ працяг]
2 грошы — за больш як 200 тыс. літраў. Нам да гэтага ўжо толькі крыху не хапае. У маі мы павінны перавысіць 200 тыс., бо ў гэтыя дні пастаўляем па 7 тыс. літраў у дзень.

***— Ці думаеце развіваць кааператыў таксама ў напрамку павелічэння колькасці членаў?***

— Наступныя гаспадары заяўляюць, што яны зацікаўлены стаць членамі нашага кааператыва.

***— Ці гэта гаспадары толькі з Гарадоцкай і Міхалоўскай гмін?***

— Паводле нашага статута толькі з гэтых гмін прымаем. Паасобныя гаспадары маюць халадзільнікі, дык ад іх бяруць малако, але ўжо індывідуальна. На тэрыторыі колішняга Беластоцкага павета мусіць толькі 5 такіх гаспадароў, частка ад Тыкоціна перайшла пад малочны завод у Моньках. Наколькі ведаю, падобны нашаму кааператыў ствараюць у Сухаволі.

***— А на поўдзень ад Нарвы?***

— Прыязджаюць да нас многія людзі ад Нарвы, Нараўкі, Суража і прабуюць у гэты бок ісці. Але там дзейнічаюць, галоўным чынам, традыцыйныя „спулдзельні". Яны, напрыклад, ставяць халадзільнікі у гаспадароў, але гаспадар падпісвае дамову, што будзе пастаўляць ім малако на працягу, скажам, пяці гадоў. Такі гаспадар мае лягчэйшы старт, але затое прывязваецца да скупшчыка. Наш кааператыў створаны „знізу" і мы маем свабоду выбару, каму будзем прадаваць малако. Да нас можа прыехаць любы малочны завод. У гэтым цэлая філасофія дзеяння. Мы не прабуем мяняць купца, але ўжо ёсць такія, што далі б вышэйшую цану. Пакуль што застаемся ўсё ж такі лакальнымі патрыётамі.

***— Ці лёгка знайсці купца на малако?***

— Сёння скупка малака ў краіне зменшылася напалову таго, што было ў найлепшыя гады. Многія малочнатаварныя заводы пачынаюць малака шукаць, але яны хочуць купляць добрае малако. Найлепшыя малакаперапрацоўчыя заводы ў краіне плацяць 90 і больш грошаў за літр. Ім, паколькі маюць тэхналогію і збыт на свае прадукты лягчэй паехаць 100—200 кіламетраў і купіць добрае малако, чымся арганізаваць сыравінную базу ў сваім наваколлі.

***— Якія, на Вашу думку, перспектывы развіцця Вашага кааператыва і малочнай прадукцыі наогул?***

— Для кааператыва важныя памеры прадукцыі, а не колькасць членаў. Калі расце прадукцыя, цэлы раён робіцца больш актыўным. Нядаўна ніхто не купляў зямлі, а цяпер амаль усе члены кааператыва купляюць гектары. Гэтым падбіваюць цану зямлі.

Многа нас быць не можа, бо мэтазгодна мець каля 50 га лугоў на адну гаспадарку. На дзве нашы гміны гэта можа быць гаспадароў 60, якія займаліся б выключна малочнай вытворчасцю. Крыху яшчэ застанецца для іншых галін сельскагаспадарчай прадукцыі.

***— Ажно цяжка паверыць, што на такой аграмаднай тэрыторыі застанецца так мала гаспадароў?***

— Гэта агульнаеўрапейскі працэс. У заходніх краінах падобнае ўжо адбылося. У Польшчы гэты працэс толькі пачынаецца, але ў нашых гмінах ён прайшоў ужо па іншых прычынах. Таму ў нас трэба толькі падтрымоўваць тых гаспадароў, якія засталіся і хочуць развіваць вытворчасць. А працы шмат. Хаця б паправа якасці статка. Людзі купляюць зацеленыя цялушкі нават за мяжою. Сябра са Страшава купіў 15 у Галандыі, з Падазеран — такіх 2. Іншыя прывозяць з глыбі Польшчы: сябра з Азяблоў прывёз 8 з Альштынскага, сусед 4 з Ляшчынскага ваяводстваў. Плацяць больш 4 000 зл. за штуку і гэта пачынае аплачвацца. На тэрыторыі нашых двух гмін танна добрай каровы не купіш. Купляем таксама насенне амерыканскіх бугаёў пароды Гольштайн-Фрыз проста з імпарту.

Наогул можна сказаць, што безумоўна ў XXI стагоддзе мы не ўвайшлі, але многія з нас дагналі канец XX стагоддзя.

***— Ці можаце перадаць сваё крэда тым, якія задумалі б пайсці Вашым і Вашых сяброў шляхам?***

— Не чакаць аж назбіраюць сваіх грошай — ніколі іх не будзе досыць. Браць пазыкі і мадэрнізаваць гаспадарку ў накірунку магчымым у іх умовах. Няма месца ў наш час для такіх, якія чакаюць, што нейкі міністр зробіць нешта лепш. Цяперашняя вытворчасць патрабуе многа ведаў і скарыстання ўсяго новага ў абранай галіне прадукцыі.

Самая ліберальная гаспадарка не зробіць жыцця лягчэйшым. Яна затоптвае тых, хто чакае, што яна яму штосьці дасць. І вельмі цяжка рабіць усё у адзіночку. Ва ўмовах свабоднага рынку сяляне ўсё ж такі павінны яднацца, каб не быць адданымі на добрую волю вялікіх фірмаў.

**Гутарыў Алег ЛАТЫШОНАК**



*Уладзімір Лукошык з жонкай Лідай.*

# Вярнуць чыгунку!

Ліквідацыю чыгуначнай камунікацыі на лініі Белавежа—Гайнаўка—Бельск-Падляшскі шматлікія лічаць найвялікшым скандалам дзевяностых гадоў на Гайнаўшчыне. На гэту тэму шмат пісалася і гаварылася, дык без эфекту! Многія ўжо пагадзіліся з фактам, што ўвесь выключаны з руху адрэзак зарос травой і пустазеллем. Час ад часу яшчэ хтосьці пусціць чутку быццам будуць вяртаць рух цягнікоў, але мала хто ў гэта верыць, тым больш, што ходзяць паралельна і пагалоскі, што ўсё чыгуначнае палатно разбяруць. Асабліва адчуваецца недахоп чыгуначнага спалучэння на адрэзку Белавежа—Гайнаўка. Павялічаны аўтамабільны рух па шашы наносіць вялікую шкоду першабытнаму лесу, не гаворачы ўжо аб клопатах з даездам на працу ці ў школу шматлікім жыхарам навакольных вёсак.

Маючы ўсё гэта на ўвазе, галоўны рэдактар мясцовага часопіса „Białowieżanin" Анджэй Антчак заініцыяваў збор подпісаў пад зваротам у Сейм, Сенат і Раду Міністраў РП дзеля вяртання чыгуначнага спалучэння з Белавежай. Зварот падпісала ўжо каля тысячы чалавек, ды не толькі з адной Белавежы, але і з Гайнаўкі, Беластока, Варшавы і Ольштына. У гэтым апошнім горадзе вялікую працу вядзе карэспандэнт „Нівы" Андрэй Гаўрылюк. Яму ўдалося зацікавіць справай многіх людзей, а таксама некаторыя органы тамашняй адміністрацыі.

Ці зварот грамадзян РП у вярхоўныя органы дзяржавы дапаможа ў вырашэнні балючай справы? Пабачым! Добра і тое, што „эканамістам" з ПКП спаць спакойна не дадуць.

І яшчэ адно! У жніўні г.г. чыгунцы Гайнаўка—Белавежа споўніцца роўна 100 гадоў. Яна „перамагла" дзве сусветныя войны і ўсялякія грамадскія закалоты, а прыйшлося ёй памерці ў „свабоднай дзяржаве". Іронія лёсу?

**Пётр БАЙКО**

# Аптымiст у дзеяннi

Мяняецца выгляд Орлі. Да ліку маладых людзей, якія бачаць сэнс у інвеставанні ў гэтай мясцовасці, належыць **Марк Хмялеўскі** — яшчэ нядаўна беспрацоўны, а цяпер уласнік кавярні „У Марка". Малады прадпрымальнік да будучыні ставіцца з аптымізмам і таму ўвесь час інвестуе і шукае падтрымкі ўлад.



— Трымаю парадак, — гаворыць Марк Хмялеўскі, — хаця гэта адбіваецца на маёй кішэні. Ведаю, што калі сюды зойдзе чужы чалавек, мне не трэба будзе саромецца за сваю кавярню, а і кліент будзе задаволены.

Знаёміцца з прадпрымальніцтвам прыйшлося яму ў вельмі цяжкіх і няпэўных умовах. У пачатку 1990 года папаў ён пад скарачэнне і апынуўся на „куранёўцы". Быў дзевятым па ліку беспрацоўным у Раённым бюро па працаўладкаванні ў Бельску. На дапамогу па беспрацоўі з двума дзецьмі і жонкай пражыць было немагчыма і трэба было шукаць выхад са склаўшайся сітуацыі. Узяў ён са згаданага бюро крэдыт на льготных умовах, зняў пустуючы будынак у Орлі і стаў арганізаваць у ім кавярню для моладзі. Аднаго крэдыту было мала і трэба было задоўжыцца ў Кааператыўным банку. Купіў тады аўтафургон, адкрыў яшчэ прадуктовую краму. Ад 1991 года працавала ў яго 16 чалавек.

— Сённяшняя моладзь, — гаворыць уладальнік кавярні „У Марка", — не праяўляе культурнай актыўнасці, а толькі чакае гатовага, нават дыскатэкі самі не сарганізуюць. Можа культура піцця крыху паправілася, бо „чарніла" п'юць ужо са шклянкі, а не проста з бутлі.

Кавярняй карыстаюцца донары і гурток рыбаловаў. Яе ўладальнік стараецца спансараваць мерапрыемствы з нагоды Дня дзіцяці, „Анджэйкаў", пажарных спаборніцтваў і іншых святкаванняў.

— Кожны год, — расказвае прадпрымальнік, — Гмінны асяродак культуры звяртаецца да мяне як першага з прапановай спансараваць беларускі народны фэст. Калі я не адкажуся, то і іншыя таксама столькі ж дапамогуць. У мінулым годзе даў я скрынку добрай гарэлкі. Сёлета не буду горшы.

Марк Хмялеўскі не засяроджваецца толькі на грашах, але ўлічвае таксама і грамадскі аспект сваёй дзейнасці. Ужо два гады рыхтуецца добраўпарадкаваць у Орлі непрыгодныя для сельскай гаспадаркі землі і адкрыць адпачынковы цэнтр з разлікам на мясцовых жыхароў і турыстаў.

— Гэты абшар аж сам просіцца, каб прывесці яго ў парадак. Нават войт праяўляе цікавасць да гэтага. Калі атрымаю пляц побач, тады буду планаваць пабудову басейна і стану шукаць грошы па розных установах і фондах — экалагічных, падтрымкі прадпрымальніцтва. У многім вырашэнне справы залежыць і ад Управы гміны, калі яна падтрымае мяне не толькі на словах, але і на самой справе, г.зн. калі дасць магчымасць па мінімальных цэнах пакарыстацца сваімі грузавікамі, экскаватарам ці бетонамяшалкай. Быў бы гэта адпачынковы цэнтр з гастранамічнай базай. Я — чалавек упарты, — кажа на заканчэнне нашай размовы Марк Хмялеўскі, — і мяне не расчароўваюць насмешкі людзей наконт маіх планаў. Я ж раблю гэта ўсё не толькі сабе, але хачу разам з іншымі зрабіць нешта карыснае для арлянскага грамадства, пакінуць па сабе трывалы след.

**Гутарыў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Звычайны прэзідэнт

Калі Гасподзь даравау беларусам цудоўную зямлю, тады, каб не адчувалі яны сябе як у раю, заявіў ім, што ўвесь час будзе ў іх дрэннае начальства. Такім анекдотам пачынаецца фільм Юрыя Хашчавацкага „Обыкновенный президент" пра кіраўніка Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнку. У сённяшняй палітычнай сітуацыі гэты фільм не мае шанцаў трапіць на экраны кінатэатраў ці тэлевізараў і менавіта таму распаўсюджваецца ён падпольна на відэакасетах.

Аўтар фільма праводзіць вівісекцыю дзяржаўнай улады ў Беларусі, паказвае прыход Аляксандра Лукашэнкі да прэзідэнтуры і паэтапна аналізуе ажыццяўленне ягонага плана ўзмацнення пазіцыі прэзідэнта. У пачатку і ў канцы гадзіннага фільма гучаць словы Лукашэнкі аб ролі моцнай прэзідэнцкай улады ў стварэнні магутнасці ІІІ Рэйха. Між гэтымі выказваннямі — у чатырох главах — даецца партрэт сённяшняга прэзідэнта, які малююць галоўным чынам былыя высокія чыноўнікі прэзідэнцкай каманды.

Начальнік Галоўнага ўпраўлення Службы кантролю Прэзідэнта РБ у 1994—1996 гадах Васіль Саковіч на прыкладзе тадышняга прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра расказвае пра атмасферу запалохвання ва ўладных вярхоўных структурах. Калі Чыгір страціў прыхільнасць у прэзідэнта, у пошуках кампраметуючых матэрыялаў зрабілі ў яго вобыск, а ў подпісах пад некралогамі ягонае прозвішча стала паяўляцца не на другім, але на трэцім месцы — за віцэпрэм'ерам Мясніковічам. Каб выклікаць абсалютную паслухмянасць прэзідэнту, збіраецца кампрамат на ўсіх важнейшых чыноўнікаў. Шэф кантролю паказаў таксама механізм стварання матэрыяльнай базы для прэзідэнцкіх структур. Займаецца гэтым Іван Ціцянкоў, якога ў Беларусі называюць „адыёзнай асобай".

Спачатку прэзідэнтуры даверам Аляксандра Лукашэнкі карыстаўся Аляксандр Фядута, які ў 1994—1995 гадах працаваў начальнікам Упраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі Прэзідэнта РБ. Цяперашні рэдактар апазіцыйнай газеты „Имя" здзіўляецца, напрыклад, тым, што прэзідэнт свой рабочы дзень пачынае з саракамінутнай сустрэчы з шэфам Савета Бяспекі замест з нарады з міністрам эканомікі.

З прэзідэнцкай каманды адышоў у 1995 годзе Юрый Захаранка — міністр унутраных спраў, які не схацеў паабяцаць прэзідэнту, што выканае любы ягоны загад і заявіў, што да людзей страляць не будзе. Экс-міністр расказаў, як пасля рэферэндуму аб адмене дзяржаўнай сімволікі прапанаваў прэзідэнту ўрачыста, у суправаджэнні ганаровай варты і аркестра, зняць бел-чырвона-белы сцяг і здаць яго ў музей, а затым падняць чырвона-зялёны. Але так не сталася і на фільме можна паглядзець, як група прэзідэнцкіх чыноўнікаў разрывае на шматкі гістарычны сцяг, а сам Іван Іваныч Ціцянкоў распісваецца на кожным яго кавалку. Потым гэтыя аўтографы прадаваліся за долары.

Пра Аляксандра Лукашэнку выказваюцца, таксама крытычна, Станіслаў Шушкевіч і Сямён Шарэцкі — былыя старшыні Вярхоўнага Савета.

Вочы — люстэрка душы, — гучыць з-за кадра голас, а на экране паяўляецца Аляксандр Рыгоравіч у розных сітуацыях. Можна тут убачыць напружаны жорсткі позірк прэзідэнта, калі падчас сустрэчы з працоўным калектывам завода крычыць гаваркому вальнадумнаму рабочаму „Молчи, когда я говорю!", або масленыя вочы на шчаслівым твары, калі на выстаўцы ўзіраецца ў велізарны габелен з галерэяй выдатных асоб з гісторыі Беларусі, якую завяршае выява Аляксандра Лукашэнкі ў выглядзе іконы Хрыста Пантакратара.

Фільм Юрыя Хашчавацкага паказвае, як прагны абсалютнай улады чалавек пры дапамозе сілавых структур і чыноўніцкага апарату, інтрыг і палітычнага хуліганства, не зважаючы на прынцыпы дэмакратыі, паспяхова рэалізуе свой план і наводзіць аўтарытарныя парадкі. Таму верагодна гучаць словы героя кінастужкі ў канцы фільма: „Не волнуйтесь о сроках президентства. Александр Лукашенко будет президентом двенадцать лет. Я уже об этом говорил".

**Віталь Луба**



# Выбарчая панарама Беласточчыны

[1 ☞ працяг]

жыццёвых праблем пераканаў іх, што беларускасць не адкрывае ім дарогі да лепшай будучыні, а найчасцей патрабуе ахвярнасці. Кандыдата Беларускага выбарчага камітэта, які найчасцей гаварыў пра родную мову, культуру ці нацыянальную годнасць „нашы людзі" звычайна не разумелі.

Калі г.зв. электарат пастаянна адмаўляў падтрымкі „свайму" кандыдату, беларускія дзеячы вырашылі змагацца за месца ў парламенце ў радах польскіх партый. Як першы вызначыўся Беларускі саюз, які адгукнуўся на прапанову супрацоўніцтва з боку Уніі працы. Яўген Вапа — старшыня Саюза ўжо год таму атрымаў прапанову стаць другім, зараз пасля Пасла Смулкі, на выбарчым спіску гэтай партыі. З афіцыйна непацверджаных крыніц вядома, што на спіску Уніі працы можа быць таксама кандыдат Царкоўнага брацтва Яраслаў Матвяюк.

Раней царкоўныя, украінскія і рускія дзеячы стварылі Аб'яднанне ўсходніх славян, мэтай якога было заснаванне ўласнага выбарчага камітэта. Але пастанова Канстытуцыйнага трыбунала аб тым, што „славяне", як супольнасць без акрэсленай нацыянальнасці, не атрымаюць тых льготаў, якія дапускаюцца заканадаўствам у выпадку нацыянальных меншасцей. Гэта абазначала, што „славяне", як і ўсе польскія партыі, каб атрымаць месца ў Сейме, павінны набраць 5 працэнтаў галасоў у маштабе краіны. Паколькі гэта зусім нерэальная справа, тады і працэс стварэння арганізацыі такога характару быў спынены. Магчыма, што неўзабаве ўзнікне нешта новае, што будзе мець у назве акрэсленне карэлятыўнае да нейкай нацыянальнасці і праваслаўнага веравызнання. Калі б аднак прадстаўнік Брацтва ў сапраўднасці быў на спіску Уніі працы, тады стварэнне камітэта з назвай „праваслаўны" моцна ўскладнілася б.

У адрозненні ад усіх папярэдніх выбараў цяпер адчуваецца грамадская патрэба галасаваць на нейкіх „сваіх", але і гэтым разам меркаванні дзеячаў і спадзяванні „нашых" выбаршчыкаў разыходзяцца. Лідэры беларускага руху на Беласточчыне пасля трох паражэнняў страцілі веру ў паспяховасць чарговай самастойнай выбарчай акцыі.

У польскай прэсе можна было прачытаць пра ўдзел старшыні Беларускага грамадска-культурнага таварыства Яна Сычэўскага ў выбарчай акцыі Саюза левых дэмакратаў. Згадвалася пра чацвёртае месца бэгакатоўскага лідэра на спіску гэтага блока ў беластоцкай акрузе. Нічога не вядома пра яго месца на краёвым спіску СЛД. Год таму, калі наш журналіст звярнуўся да старшыні БГКТ з просьбай узяць інтэрв'ю з нагоды 40-годдзя Таварыства, спадар Сычэўскі адказаў, што пытанні маюць палітычны характар, а яго арганізацыя і ён сам палітыкай не займаюцца. Не ўсе ў гэта паверылі, але...

З заклікамі да „нашага" электарату будуць затым звяртацца беларусы і праваслаўныя і яшчэ пару дзесяткаў „сяброў" беларусаў і праваслаўных. Найбліжэйшае лета не павінна быць нуднае ў палітычным жыцці. На бэгакатоўскіх фэстах праўдападобна будзе можна пабачыць людзей, якія кожнага дня ўсміхаюцца да свайго электарату з тэлевізійнага экрана. Неўзабаве будзе можна, цалкам дарма, паціснуць ім руку.

**Яўген Міранові**ч

Адгалоскі

# Усе наракаюць

Селянін з багатай вёскі Грыша Мароз, рабочы-пенсіянер Уладзімір Сідарук і інтэлігент-пенсіянер Васіль Петручук глядзяць на навакольную рэчаіснасць вачамі тэлебачання. І ўсе наракаюць. Ніякай радасці, а толькі турботы. Грыша Мароз хвалюецца таму, што „сяляне (...) ужо разбагацелі: свірны поўныя збожжа, капцы трашчаць ад бульбы". Некалькі радкоў ніжэй піша: „Людзям жывецца штораз горш. І ў горадзе, і на вёсцы, усюды аднолькава". Не ўсім, піша Мароз, але большасць „канцы з канцамі ледзь зводзіць". Нараканне гэтае разумею так: брак грошай і на вёсцы, і ў горадзе. Свірны поўныя, але грошай няма. Можа непатрэбна гэта прыпамінаю, але восенню дзяржава купляла і збожжа, і бульбу, але няхай будзе па Грышаваму, што ад прыбытку галава баліць. Аб тым, як жывецца ў горадзе, Грыша Мароз ведае з тэлебачання, калі піша, што „ў горадзе, калі бяда прыпячэ, людзі маюць як ратавацца: за транспаранты і на вуліцу!" Шкада, што я аб гэтым не ведаў, можа і мне палепшылася б, калі б выйшаў на вуліцу з транспарантам.

Рабочы-пенсіянер турбуецца з-за вандалізму сучасных хуліганаў, якія разбураюць чыгуначныя прыпынкі, абліваюць фарбамі грамадскія ўстановы ці замуроўваюць жывых людзей у будынку. Праўда. Трэба аб вандалізме пісаць. Але Уладзімір Сідарук прычыны вандалізму бачыць у дэмакратыі: „На маю думку, цяперашняя дэмакратыя ні ў чым не розніцца ад камуны". Значыць, за камуны таксама быў „вандалізм і анархія"? Не разумею. З аднаго боку, у час камуны будаваліся „дарогі, школы, святліцы...", і гэта добра, з другога боку — дэмакратыя не розніцца ад камуны, значыць, таксама будуюць „дарогі, школы, святліцы"? Толькі вандалізм дакучае, ці як? Адным словам, усё паблытана ў карэспандэнцыі. Так як у тэлебачанні. У ім ёсць усё і аб усім таксама і ў допісе Уладзіміра Сідарука.

Васілю Петручуку немагчыма забыцца пра сваё дзяцінства. Праўда, кожны меў якоесьці дзяцінства — горшае, лепшае. Але ці аб гэтым трэба пры кожнай нагодзе прыпамінаць? Можа і так, але можа і не.

Грыша Мароз крануў вельмі важную справу збыту сялянскай прадукцыі. Выхадам не можа быць прапанова карэспандэнта, каб дзяржава скупляла ўсё тое, што селянін мае ў свірнах. Гэта ўжо было. Дзяржава мае ствараць умовы сельскай гаспадарцы, а збытам і прадукцыяй мае займацца селянін або залежны ад яго пасрэднік. Бульбу, збожжа, мяса можна перапрацоўваць на прадукты на месцы. Трэба ствараць толькі адпаведную інфраструктуру. Але, думаю, справа ў адным слове „толькі". Каб гэта ствараць на месцы, вёсцы патрэбны розум і капітал, а не нараканне. Чытаю, што мільёны долараў заграніцай помачы на развіццё інфраструктуры ляжаць у банках нявыкарыстанымі. Чаму? Можа таму, што лепш наракаць на дэмакратыю.

**Міхась Куптэль**

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ
№ 449

Рэдактар: Сакрат Яновіч

Здаецца, зусім нядаўна святкавалі мы сямідзесяцігоддзе **Віктара ШВЕДА**. І вось новы ў яго юбілей: саракагоддзе літаратурнай працы. Паэтычны дэбют Шведа меў месца на старонках „Нівы"; быў гэта верш *Я — беларус*, апублікаваны ў нумары ад 24 сакавіка 1957 г.

Віншуючы вядомага паэта з юбілеем, друкуем нізку яго нованапісаных вершаў; таксама адзін з паэтычных перакладаў, якімі ён апошнім часам жыва займаецца. І аўтабіяграфічнае апавяданне-ўспамін.

### Штучны падзел

Даўным-даўно нас дзеляць так,
Хоць і адзін у нас Ісус:
Калі ты каталік — паляк,
А праваслаўны — беларус.

Шмат маем беларускіх сёл
З роднай гаворкай з даўніх год.
Ды ёсць царква тут і касцёл,
Яны вось дзеляць наш народ.

І барацьба за душы тут
Ідзе праз многія гады.
Часта не ведае ўжо люд
Хто ён, які ён сапраўды.

Калі ж, аднак, падзел такі
Штучна праводзіцца наўкол,
Тады ці ж варта, землякі,
Насілу ціснуцца ў касцёл?

### Праваслаўныя палякі

Тутэйшымі быць многім надаела
І аставацца імі — не прымус.
Адвагі не хапае сказаць смела
І канчаткова: — Я, дык беларус.

Між намі адшчапенцаў шмат усякіх,
Украінцамі многа стала з іх.
У модзе праваслаўныя палякі
І з кожным днём тут штораз
больш такіх.

Што хочуць большасці
прыпадабацца,
Імкнучыся да гэтага ўсяляк.
І беларусамі не хочуць аставацца,
Што хоць і праваслаўны — ён паляк.

І хутка знікне іншасці адзнака,
Адбудзецца працэс у іх такі:
Яны ўжо праваслаўныя палякі,
Наступны крок у іх — каталікі.

### Вярніся

Як мае словы нешта значаць,
Дык пашкадуй сваіх ты слёз.
Хай твае вочы больш не плачуць,
Бо зменлівы заўсёды лёс.

А твае слёзы — мае мукі,
Маёй душы пякучы боль.
Я не хачу з табой разлукі,
Ты зразумець мяне дазволь.

Не гіне хай усмешка з твару,
Патрэбны нам душы спакой.
Я аб табе і сню, і мару,
Хачу заўсёды быць з табой.

Спрачацца — гэта недарэчнасць,
У сэрцах — вечная любоў.
Прашу, каханая, сардэчна:
Вярніся да мяне ізноў.

### Сямейны стол

На штодзень бедны, а багаты
Толькі ў вялікія быў святы.
За тым сталом усёй сям'ёю
Мы ласаваліся ядою.
Быў на стале заўжды хлеб чорны
З мукі намолатай у жорнах.
Белай настольніцай накрыты
З родным узорным каларытам.
За тым сталом, пад абразамі,
У вэлюме калісьці мама
З татам сярод гасцей сядзелі
На ўласным радасным вяселлі.
Тут за сталом псалтыр чыталі,
Калі дамашнія ўміралі,
Свячу грамнічную свяцілі
Прад сном іх вечным у магіле.
Мама штодзённа на каленях
Стаяла ў шчырасным маленні
Перад сталом, пад абразамі,
Каб Бог апеку меў над намі.
Я пад сталом з малодшым братам
Гульняў дзіцячых меў багата.
А за сталом рашаў я потым
Усе дамашнія работы.
Наш стол — сямейнае багацце,
Стаіць у апусцелай хаце.
І ён яшчэ жыве няспынна
У нашых цёплых успамінах.

---

Крыстына Канэцка

## *Вянок санетаў*

### У жыццёвай дарозе

Здарыўся ты мне. Так нечакана,
як сярод засухі дождж трапічны,
узрушэнняў даўніх ночаў звычна
тваім рукам была я паслухмяна.

Пяшчоты не хапала мне чуллівай,
даўкай скуры пустыні пясчанай,
каб заўчасна не прыйшоў світанак
у пацалунках целапальных лівні.

І наўкола прыгожых каленяў
я скрунуся ў голае сплыценне,
як спіраль кары бярозы гнуткай.

Не абходзіць нас ці прыйдзе хутка
з анафемай бура з бліскавіцай.
Ты ж не можаш мне больш паўтарыцца.

### Перад актам

Абыякавае ў шчаку вуснамі крананне,
уздых льготы па ночы руцінных жэстаў.
Колькі ж з дрэва гадоў апала дзён без зместу
скуры пахучай сепіяй, як стары здымак танны.

Фірмавая канферэнцыя, неабходныя кантакты,
пасля гадзін экстазу ў паперах канторы,
з агідай да вяртання на свой панадворак
занясло цябе выпадкова на выстаўку акта.

Спыніўся ў захапленні ў дзіўнай галерэі,
заваражаны целам і з нейкай надзеяй
на дзяўчыну без твару з пачуццём ў імгле тонкай...

Ён аддаў ёй у думках свайго сэрца сакрэты,
цалуючы фотаздымак не ведаў аб гэтым,
што музай аб'ектыва была твая жонка.

### Штодзённы санет

У вячэрнім аўтобусе памаўчу крышку,
завешана між стамленнем і змрокам,
па тым баку справы і дамы высокія
шукаю да цябе дарогу з аддалення блізкі.

Па штодзённых тварах змрок вандруе слізкі,
свет замыкае ў арку шкляным чатырохбокам
пад далонню танцуе шыба і дажджу патокі,
сон пухне пад скронню неспакойным бліскам.

Прад знаёмым паўстанкам позірк маладзее,
з шэрых твараў адпадае астравок надзеі,
толькі б прабыць балота, каб не сказіць дому.

А я найбольш чужая не скажу нікому,
што ад наглай бярозы у цемры адважнай
важная твая блізкасць а іншае няважнае.

### Здрада

З прываблівай да месяца ўцехай
вывучаю палымяны багамола танец
і так мы слепнем на скрыжаванні,
няма з якога куды нам ад'ехаць.

Столькі бессаромнасці ў нашым дыханні
лагодным. Аднак жа бачыш, каханы,
я — крывавае кляймо на граху грані,
ты носіш у сабе моц ачышчання.

У асноўным не па дарозе нам заўсёды.
Ты — птушка пералётная. Я — сімвал згоды,
трываю, быццам карыятыда грэцкая.

Дык не абвяшчай хвалям эфіру,
што я не вярнулася. Бо цяпер шчыра
здраджу цябе з першай лепшай уцечкай.

*Пераклаў Віктар Швед*

# Вясковыя сухоты

*(Апавяданні з маёй маладосці)*

Даваенная вёска жыла вельмі бедна. Галоднае харчаванне, асабліва дзяцей, выклікала ў іх хваробы. Вынішчалі вёску сухоты. Колькі ж памерла маіх школьных сяброў! Не было тады лякарства, каб змагацца з гэтай страшэннай хваробай. Некаторыя лячыліся сабачым салам.

Быў у нас, у вёсцы, адзін сухотнік, Іван, які вылавіў амаль усіх сабак. Мелі да яго людзі прэтэнзіі, сварыліся. На закід, што змарнаваў камусьці сабаку, ён адказваў:

— Ці ж маё жыццё не даражэйшае ад сабакі?

І людзі мірыліся з сабачай стратаю.

Бацька — у 1938 годзе — прадаў на знос дзедаву хату. Да зімы не ўдалося яму выканчыць новабудаванай. Над глінянай печчу, што была засталася, бацька паставіў шалаш ад дажджу. У гэтай печы матуля і варыла. На ёй можна было, таксама, пагрэцца, аднак жа толькі да маразоў. Я хадзіў тады ў аддаленую ў пяці кіламетрах арлянскую сямігодку і ў такіх абставінах не меў ўмоў дзеля навукі. У шалашы прытым нельга было вытрываць у марозныя ночы.

Бацькі вырашылі аддаць мяне і маёго меншага брата на зімаванне ў сястры маёй мамы, Аляксандры, што жыла ў тым жа Моры. Мая гэтая цётка аўдавела, яе муж — у трыццаціпяцігадовым узросце — памёр ад сухотаў. Пасяліліся мы, я з братам, на яе хлебнай печы, на якой ужо качавала трое малых цётчыных дзяцей. Аж уздзіў бярэ, як мы там маглі ўсе змесціцца. Ніхто тым больш не задумоўваўся над гэтым, што хата туберкулёзнага нябожчыка пагражае дзеткам, якія ў ёй жылі.

Мінула з таго часу некалькі гадоў. Я адчуваў сябе штораз слабейшым і, раптам, пачаў пляваць крывёю. Ніхто, аднак, не звяртаў на гэта асаблівай увагі. — Відавочна прастудзіўся сынок, — сцвярджалі бацькі. Нікога з іх не непакоіў мой сухотны выгляд.

Падчас гітлераўскай акупацыі закульгавіў мой бацька. Мне, шаснаццацігадоваму ўсяго хлапчуку, давялося пераняць гаспадарку. Цяжкая праца і абыякавае харчаванне не спрыялі выздараўленню. На маё шчасце, малады арганізм перамог.

У 1946 годзе, позняй восенню, нягледзячы на складаныя хатнія абставіны, я паступіў у Варшаўскі універсітэт. Трэба было тады абавязкова зрабіць рэнтгенаўскі здымак лёгкіх. Мне потым сказалі: — Pańskie płuca są w samych bliznach! Былі ўжо гэта рубцы пасля загоеных туберкулёзных ранаў. Лекар параіў мне, каб лепш харчавацца, бо хвароба можа аднавіцца.

У вучобу зарабляў я адначасова на сваё ўтрыманне, звяртаючы асаблівую ўвагу на ежу. Паступова змяняўся да лепшага мой выгляд. З даўнімі шматлікімі рубцамі на лёгкіх дацягнуў я вось да пажылых гадоў.

Дзеці цёткі, з якімі я качаваў праз зіму на хлебнай печы, жывуць дзякуючы адкрыццю англійскім мікрабіёлагам А. Флемінгам пеніцыліну і амерыканскім мікрабіёлагам С. Ваксманам стрэптаміцыну.

Зніклі потым, амаль поўнасцю, жахлівыя вясковыя сухоты.

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Ала Канапелька

## Мурчын манікюр

Я пазногці фарбавала,
Мурка пільна назірала.
А пасьля і так і сяк
адабраць хацела лак.
— Мяў! Жадаю манікюрык, —
і паказвае кіпцюрык.
Кіпцік, гойстры і даўгі,
ёй малюю —
раз, другі...
Не на смех —
на зайздрасць курам
Мурка ходзіць з манікюрам.
І трымае хвост вышэй:
як лавіць цяпер мышэй?!



*На ўроку ў Новым Корніне. На здымку браты Нічыпарукі з Васількава.*
Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## Нарачанка

*Музыка Зміцера Яўтуховіча*
*Словы Алеся Ставера*




Сінім вечарам, ці сінім ранкам,
Як засвеціць расой сенажаць,
Нарачанка мая, нарачанка, | 2 р.
Выйдзі, выйдзі мяне сустракаць. |

За табой, як за песняй-заранкай
Я пайду да кваяцістых лугоў.
Нарачанка мая, нарачанка — | 2 р.
Чараўніца маіх юных сноў. |

Для цябе кветку шчасця, вяснянка,
Адшукаю ў любую пару.
Нарачанка мая, нарачанка, | 2 р.
Я каханне табе падару. |

# Казка пра валошку і жаваранка

Ці чуў ты, як на світанку прачынаецца зямля? Ці бачыў, як шле сонца да яе свае пяшчотныя праменьчыкі і сыпле імі на кветкі ў лугах, на лясы і палеткі і да нас у акенца? Вось так змяняе дзень цёмную санлівую ноч. Рознымі бываюць нашы дні, і рознымі бываюць кожны ўсход і кожны захад. А ці чуў ты, як высока ў бясхмарным небе разлівае жаваранак свае звонкія і салодкія ноты? Паслухай жа, колькі любасці і пяшчоты, колькі радасці ў спевах яго! Паслухай, сябар, гэту песню і паспрабуй яе зразумець і адчуць усёй душой. Успомні поле, дзе ты збіраў рамонкі і валошкі. Асцярожна ступаеш, зрываючы кветку да кветкі. І вось у руцэ вялізны букет, але табе хочацца абхапіць і прытуліць да грудзей увесь гэты вялікі-вялікі жывы кветкавы дыван. Ты нахіляешся яшчэ і яшчэ. А чаму ты не зрываеш гэтую кветку? Яна чамусьці бясколерная, сівая, быццам няма ў ёй жыцця.

Ведаеш, некалі і гэта Валошка была блакітнай і вельмі прыгожай. Яна любіла на ўсходзе мыцца халоднай расой, з Ветрыкам гуляць і песціцца ў сонечных промнях. А ў небе чамусьці вельмі сумна спяваў Жаваранак. Аднойчы ён прыляцеў на палетак і ўбачыў Валошку незвычайнай прыгажосці:

— Кветачка, у цябе блакіту больш, чым у летняга неба, ты прыгажэйшая за ўсе кветкі на зямлі!

— Я — Валошка, — з гонарам адказала тая.

— Валошка... Імя тваё з песні, пяшчоты і любові. Давай, Валошка, сябраваць. Я раніцой буду спевамі цябе вітаць, ад ветру і дажджу захіляць.

— Твае песні не патрэбны мне, а з сяброўства якая карысць? Мне добра і так. Не адно галасістае ты, птушаня, пражыву я цудоўна адна.

— Што ж, прыгожае імя тваё. Я хацеў з табой сябраваць і дарыць табе свае песні. Ведай, Валошка, што ў жыцці бывае адзінота, сум, што без сяброў не будзе радасці табе. Ты прыгожая, але твая прыгажосць толькі для цябе. Я палячу адсюль, а калі замоўкне песня мая, то знікне блакіт тваёй жыцця.

І ён паляцеў. А Валошка сівела і сівела, пакуль ад яе не засталося і знаку.

Навучыся, сябар, слухаць песні птушак, бо гэтыя песні яны табе спяваюць. Навучыся любіць кветкі, дрэвы і травы, бо растуць яны для цябе. І пакуль ты іх будзеш любіць, яны будуць жыць і радаваць усіх.

**Дзіма Трушанаў, 6 клас**
*(Казкі дзяцей Беларусі)*

# Наймалодшы глядач

На аглядзе абрадных сцэнак у выкананні беларускіх калектываў, які адбыўся 11 мая ў Нарве, сярод гледачоў вылучаўся малы Патрык Сегень. Быў ён наймалодшым чалавекам у зале Нарваўскага асяродка культуры, бо яму ўсяго тры месячыкі. „Прыйшоў" сюды з мамай і чатырохгадовым брацікам Петрусём (на здымку ён — злева, справа ад мамы — малы Патрык).

Думаецца, што гэтыя дзеткі, калі вырастуць, будуць цаніць беларускую культуру, родныя традыцыі, бо іх гэтаму вучаць змалку.

**Ада Чачуга**
*Фота аўтара*



# Польска-беларуская крыжаванка № 22

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Bas / Okazja | | Nieszczęście / Gaz | | Rzeka / Dom | | Mak |
| | | | | | | |
| Sroka | | | | | | |
| | Zamek | | | | | |

### *Магічная польска-беларуская крыжаванка*

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Jawor | | | | |
| Woda | | | | |
| Adam | | | | |
| Rama | | | | |

**Адказ на крыжаванкі з н-ра 18.**

**Польска-беларуская крыжаванка:** галубка, сад, апалонік, крапіва, зона, базар, ас, рот, цмок, май, рукзак, нос, аса, лапка, удар, лабок, клопат, ніз, ніва, вікарый.

**Крыжаванка Давіда Скавародкі: Сонца.**

Узнагароды — **аўтаручкі „SUPERGEL"** — выйгралі: **Дарота Барташэвіч** з Махнатага, **Андрэй Казёл** з Гарадка, **Дарак Екацярынчык** з Кнарыд.

Віншуем!



Талон „Зоркі" № 22
01.06.1997

# Бібліятэка — другі дом

Такое параўнанне сказала нам дырэктар нарваўскай бібліятэкі Ала Сяткоўская. Мы з ёю спаткаліся на другі дзень IX Сустрэч „Зоркі". Спадарыня Сяткоўская расказала нам некалькі цікавін пра сваю бібліятэку.

Нарваўская бібліятэка мае два філіялы — у Ласінцы і Трасцянцы. Моладзь з Ласінкі вельмі любіць сваю бібліятэку. Там аж дзвесце чытачоў. Трасцянка таксама мае чым ганарыцца. Неўзабаве будзе адзначаць сваё саракагоддзе. Гісторыя публічнай бібліятэкі ў Нарве даволі складаная. У 1973 г. згарэла старая бібліятэка, якая знаходзілася ў будынку сінагогі. Тады загінуў амаль увесь кнігазбор. Сённяшняя бібліятэка знаходзіцца ў НОКу — Нарваўскім асяродку культуры. Працаўніцы ды сябры, аб'яднаныя ў гурт зацікаўленняў моладзі, памагаюць шукаць старыя, не зусім яшчэ знішчаныя кніжкі. У бібліятэцы захавалася кніжка з 1959 г. „Чатырыста гадоў польскай пошты". Людзі, якія кахаюць кніжкі, стараюцца захаваць як найбольш экземпляраў і памалу ў Нарве збіраецца багаты кнігазбор. Адной праблемай з'яўляецца недахоп бібліятэчных памяшканняў. У Нарве 600 чытачоў. Спадарыня Сяткоўская і іншыя працаўнікі асяродка культуры хацелі б пабольшыць зал. У Нарве зараз два бібліятэчныя памяшканні. Адна зала для дзяцей, другая — для дарослых. Найчасцей бібліятэкай карыстаюцца студэнты і вучні сярэдніх школ. На раз можна пазычаць пяць кніжак, ды трымаць іх адзін месяц. Найстарэйшыя паклоннікі кніжак гэта Данута Нязгода, Яўген Харашэўскі (нядаўна памёр). Спадарыня Сяткоўская хоча стварыць аддзел для трох- і чатырохгадовых дзетак, каб яны таксама маглі пазнаёміцца з кніжкамі.

Спадарыня Ала Сяткоўская выявіла многа добрай волі, спатыкаючыся з удзельнікамі „Зоркі". У гэты дзень бібліятэка была закрытая, а мы ўсё ж сустрэліся і пазнаёміліся з гісторыяй бібліятэкі. „Спатканне з «Зоркай»" было ў праграме мерапрыемстваў, якія арганізаваў гмінны асяродак культуры ў Нарве. Дзякуючы Але Сяткоўскай мы маглі перажыць некалькі хвілін сярод нашых самых верных сяброў.

**Аня Садоўская**
**VII кл. ПШ у Нарве**



*Тэатральная група з Кленік з настаўніцай беларускай мовы Верай Флярчук.*
Фота Ганны Кандрацюк

# Мае сябры

Я вельмі люблю звяроў і прыроду. У сакавіку мінулага года, на дзень нараджэння, я атрымала дзве маленькія марскія свінкі.

Кора і Рокі — так я іх назвала, мелі тады два месяцы. Цяпер — гэта ўжо дарослыя звяркі.

Свінкі жывуць у вялікай скрынцы. Кора і Рокі вельмі любяць пабегаць па пакоі. Яны скачуць, робяць хуткія павароты і пішчаць ад радасці. Мае сябры навыклі сядзець на маіх плячах. Выглядаюць тады як футравыя шалікі.

Яны вельмі са мной зжыліся. Калі хтосьці незнаёмы бярэ іх на рукі, тады яны ад злосці кусаюцца. А зубы ў іх вельмі вострыя!

Кора і Рокі — гэта вялікія ласуны. Яны ахвотна ядуць моркву, буракі, яблыкі, зялёную траву, салату, капусту, зерне збожжа. Любяць вараную бульбу і сельдэрэй.

Мне трэба памятаць, каб у скрынцы заўсёды былі галінкі ляшчыны, асіны або бярозы, каб свінкі маглі сабе сціраць зубы-разцы, якія ім хутка растуць.

Кора і Рокі вельмі ахвотна п'юць малако. Пасля яды заўсёды мыюцца, а робяць гэта так, як каты.

Гэта чароўныя звяркі!

Кора — чорна-рыжая з белай латкай на спіне, а Рокі — цёмна-рыжы. Насы і лапкі ў іх белыя.

Я вельмі цешуся, што маю такіх цудоўных прыяцеляў і ахвотна імі займаюся.

**Кася Леанюк, клас VI „ц"**
**ПШ н-р 6 у Гайнаўцы**

# Вясёлы куточак

— Што такое адукацыя? — пытае настаўнік Міколку.

— Спярша мы многа вучымся, пасля многае з гэтага забываем, і тое што астаецца, гэта і ёсць адукацыя.

* * *

— Пецька, ці ты вучышся хаця крыху? — пытае настаўніца.

— Вядома!

— Дык чаму ж робіш столькі памылак?

— Бо я вучуся на памылках.

* * *

Настаўнік звяртаецца да новага вучня:

— Скажы, як называешся.

— Ян Кавальскі.

— Калі да мяне звяртаешся, трэба гаварыць „пан".

— Пан Ян Кавальскі, — дадае вучань.

* * *

— Якая найбольшая вучнёўская памылка?

— Перакананне, што настаўнік ахвотна ходзіць у школу.

* * *

На ўроку геаграфіі настаўнік тлумачыць вучням, што Зямля з'яўляецца шарам, пасля чаго правярае, ці добра яны зразумелі:

— Калі б мы пракапалі яму да сярэдзіны Зямлі і далей напралёт, дык адкуль тады мы выйшлі б? — пытае.

— З ямы, — адказвае Юрка.

* * *

На ўроку геаграфіі настаўнік пытае Міколку:

— Скажы мне, чым табе вядомы Кітай.

— Не ведаю.

— А адкуль маеш чай дома?

— Мама заўсёды пазычае ў суседзяў.

* * *

Настаўнік да вучня:

— Апошнія дзве задачы рашыў ты выдатна, што рэдка ў цябе здараецца. Як гэта сталася?

— Тата два тыдні таму выехаў у камандзіроўку.

**Даслаў Андрэй Гаўрылюк**

# Настаўніца была задаволена

7 мая мне давялося выступіць у Беластоцкай філармоніі ў рамах „Вясны артыстычнай моладзі '97". Да гэтага выступлення, мушу прызнацца, я рыхтавалася доўга і старання. Сёлета я заканчваю музычную школу I ступені па класу фартэпіяна.

Твор, які я іграла, быў доўгі і даволі складаны. Гэта быў „Капрыз" кампазітара Ігнацыя Падэрэўскага. Я вельмі хвалявалася перад выступленнем. Праўда, даводзілася мне многа разоў выступаць у танцавальных турнірах, але ж там чалавек быў не адзін. А тут давялося стаць вока ў вока з паўнютка залай Філармоніі: перад выкладчыкамі, блізкімі, сябрамі і перад незнаёмай публікай — усе яны былі маімі суддзямі.

Вядома, я ўжо і раней іграла на экзаменах, у школьнай зале, а вясною была на аглядзе ў Ольштыне. Аднак жа найбольш я баялася гэтага выступлення.

Мама, якая дапамагала мне дома (яна мае таксама музычную адукацыю) суцяшала мяне: які ж гэта артыст, што не хвалюецца перад выступленнем! А я думала: а калі паслізнецца палец...

Ну, і сталася. Пачынаю я іграць на апошняй рэпетыцыі ў зале Філармоніі, а тут неспадзявана гасне святло. Я адразу памылілася і, калі святло загарэлася ізноў, не магла ўжо сыграць добра.

Мая настаўніца аж жахнулася, а я ёй кажу: „Я пастараюся сыграць добра!" А я ведаю, што калі чалавек па-сапраўднаму сканцэнтруецца, дык можа зрабіць многа.

На выступленне я надзела белую вышываную блузачку, якую купіў калісьці мой прадзедка маёй маме. Мама заўсёды здавала ў ёй экзамены і тады ёй шанцавала.

Ну, і мне гэтая блузка, відаць, прынесла шчасце, бо ігралася мне так добра і лёгка, што нават я і сама не спадзявалася. Гучныя авацыі пераканалі мяне, што бадай, не было кепска.



*Пасля канцэрта.*

Асабліва цешыла мяне, што мая настаўніца па класу фартэпіяна Анна Сакалоўская была задаволена.

**Адрыяна Семянюк,**
**6 „а" кл. школы н-р 9 у Беластоку**

# Варта пісаць у „Зорку„

X Сустрэчы „Зоркі" будуць незвычайныя. Самыя выдатныя карэспандэнты і лаўрэаты зорчыных конкурсаў атрымалі запрашэнні на паездку ў Гданьск. Такія сустрэчы з'яўляюцца ўзнагародай для нашых маладых сяброў. На працягу тыдня (19—26 мая) мы наведаем самыя цікавыя месцы Балтыйскага ўзбярэжжа — Гданьск, Сопат, Гдыню, Мальбарк. Пазнаёмімся таксама з дзеткамі іншых нацыянальных меншасцей, якія пражываюць у Гданьску і наваколлі.

Разам з намі будуць беларускія дзеткі з Вільні. Такое мерапрыемства атрымалася ў выніку супрацоўніцтва нашай рэдакцыі і Беларускага таварыства „Хатка" ў Гданьску. Нашы суродзічы з Гданьска першыя рашылі падтрымаць таленавітых дзяцей, аб'яднаных пры Сустрэчах „Зоркі". Вялікае ім за гэта дзякуй.

**Удзельнікі Сустрэч „Зоркі".**

# Дзеці — дзецям

... Калі на сцэну Філармоніі ўвайшло беларускае прадшколле, публіка, якая іх выступленняў яшчэ не бачыла, сустрэла гэтых „артыстаў" даволі насцярожана, скромнымі воплескамі. Але не трывала гэта доўга. Як толькі малыя дзеткі пачалі спяваць, танцаваць, сыпаць жартамі, прымаўкамі, ды ўсё на сваёй мове, грымнула **бура авацый**. І так ужо было да канца іх выступленняў.

* * *

Няхай чытач даруе мне, што пачала я ад другой часткі. У першай частцы харытатыўнага канцэрта „Дзеці — дзецям", наладжанага 14 мая г.г. у Беластоцкай філармоніі праваслаўным асяродкам міласэрнасці, была выключна царкоўная музыка.

Як часта мы чуем па радыё, што ў нашай краіне штодзень ідзе ў школу каля васьмі мільёнаў дзяцей, але адзін мільён з іх выходзіць з дому без снедання. Добра, калі дзіця мае клапоцячыхся пра яго бацьку і маці, калі яно наелася і яму цёпла. Але канцэрт быў наладжаны якраз для тых дзетак, якія такога шчасця ў жыцці не зазналі, бо яны, слабыя і бездапаможныя, жывуць або ў незаможных сем'ях, або ў сірацінцах.

Харытатыўны канцэрт распачало выступленне дзіцячага хору праваслаўнай Святадухаўскай парафіі ў Беластоку, дырыгавала Агнешка Назаркевіч. Хор выканаў рэлігійныя песні: „Христос воскресе!" „Единородный Сын" і інш.

Пасля дзяцей выступіў маладзёжны хор Багдана Пуры, які таксама працуе пры парафіі Св. Духа на Антанюку, парафіі, як адзначыў вядучы а. Рыгор Місіюк, што будавалася на вачах сабраных. Хор заспяваў „Пахвальны гімн", „Багародзіцу".

А тады выступіў хор Праваслаўных духоўных школ, пад упраўленнем д-ра Уладзіміра Валосюка, які праспяваў цэлы шэраг царкоўных песень вядомых кампазітараў.

Што датычыць другой часткі канцэрта, дык менавіта яго аздобай было выступленне беларускага прадшколля. Змест яго выступлення, бадай, найбольш адпавядаў назве гэтай часткі канцэрта: „Народная музыка".

Калі гаварыць пра дзіцячы калектыў „Душкі з пушкі" з Нараўкі пад кіраўніцтвам Аліны Саевіч, дык быў ён па манеры выканання больш сучасны, чым народны ды і рэпертуар амаль увесь польскі (усяго пару песень дзеці заспявалі па-беларуску).

Выступіў яшчэ новы калектыў Алы Дубец, на гэты раз украінскі, ды вядомы ўжо маладзёжны калектыў „Чарамшына" з Чаромхі, які зневажае сваім майстэрствам (спяваў пабеларуску, па-украінску ды па-свойму, па-чаромхаўску).

Вяла другую частку і спявала беларускія песні Ала Дубец.

Яшчэ раз вярнуся да выступлення наймалодшых. Дзеці з прадшколля разам са сваімі бацькамі паказалі каляровы абрад пячэння каравая. Вясельныя гульні, танцы („Крыжачок" і „Бульба"), маладая (Волечка Максімюк) плача, Наталька Кандрацюк і Ганулька Пякарская спяваюць перад мікрафонамі, зграбна круцячы сваімі дзіцячымі задзікамі. Мікрафонаў мала, а ахвотных спяваць перад імі — шмат. Наталька бегае па сцэне, выбіраючы сабе найніжэйшы мікрафон, а пасля ўжо трэба было адцягнуць яе, бо ўжо і канцэрт хацела яна весці.

У зале смех, грымяць авацыі. Дзеці, спяваючы песні, якія вывучылі ад бацькоў, аж рвуцца, каб праявіць сябе як артыстаў. Гук, весялосць. Мо гэта пачатак беларускага тэатра ў Беластоку, пра які марыла пасляваеннае пакаленне беларусаў Беласточчыны на працягу больш пяцідзесяці гадоў?!

Падсумоўваючы выступленне дзяцей з двух беларускіх аддзяленняў прадшколля № 14 у Беластоку (ужо два гады ходзіць туды каля сарака дзетак, а вучацца яны там, як і ўсе, ды маюць яшчэ заняткі на сваёй роднай мове — у самай прываблівай форме), хочацца сцвердзіць наступнае.

**Тыя дзеткі сваім выступленнем зрабілі больш, чым дзесяткі адукаваных настаўнікаў, якія не патрапілі прывіць сваім вучням замілавання да роднага.**

Вельмі высока ацаніў выступленне прадшкольнікаў архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава ў сваім заключным слове. Абяцаў асабіста наведаць прадшколле, сустрэцца з гэтымі дзеткамі.

**Ада Чачуга**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*



*Выступаюць дзеткі з беларускага прадшколля ў Беластоку.*

# Першы фэст

Першы ў гэтым годзе беларускі народны фэст пачаўся з традыцыйнай славянскай пунктуальнасцю, г.зн. з пятнаццацімінутным спазненнем. У нядзелю 18 мая ў амфітэатр у Нараўцы сышлося шмат народу, спрыяла гэтаму надвор'е — было цёпла і сонечна. Пішу „беларускі", хаця афішы ў Нараўцы і палотнішча над сцэнай інфармавалі толькі пра „Festyn ludowy Narewka`97", канферансье гаварыла па-польску, а і выканаўцы быццам з Вавілонскай вежы зваліліся або з курсаў для паліглотаў. Праўда, старэйшая публіка гаварыла па-беларуску, затое дзетвара — па-польску. Адкрылі фэст нараўчанскі войт Мікалай Павільч і старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі; апошні гаварыў на мове старэйшых, першы — на мове паклоннікаў Мікі Маўса, якая дарэчы з'яўляецца дзяржаўнай моваю у падуладнай войту гміне. Было названа прысутнае на свяце дастаенства, а гэта былі пасол Станіслаў Малішэўскі і дарадчык прэм'ер-міністра Анатоль Вакулюк; абодва яны з Саюза левых дэмакратаў, раней працавалі ў ВК ПАРП, і, пэўна, разам са старшынёю Сычэўскім будуць балаціравацца з аднаго спіска ў сёлетніх парламенцкіх выбарах. Быў яшчэ і старшыня Беларускага саюза ў РП Яўген Вапа, але пра яго не згадвалі, бо ён — не са спіска СЛД.

— Я тут з жонкай, яна ў „Маланцы" спявае, загадала мне быць з сабою, — апраўдваўся ён мне.

„Хто мае жонку, мае дабро і заслужыў ласку ў Госпада" — пісаў мудрыц цар Саламон (Прытчы, 18:22). Жанчыны ж, спярша Ева, а пасля Раіса Максімаўна, вывелі народ з раю і ўсе грахі можна цяпер звальваць на іх. Як гэта было з Адамам — вядома, ды і Міхаіл Сяргеевіч *советовался* з жонкай. А вось мой беларускі слаўны шклоўскі цёзка не лыкам шыты — пакінуў сваю бабу карову даіць — будзе рай!

Ну, але годзе палітыкі, пара на культуру. На сцэне амфітэатра выступілі калектывы: дзіцячы „Душкі з пушкі", маладзёжны „Лучына" і фальклорны — усе тры з Нараўкі, „Цаглінкі" са Старога Ляўкова, „Ас" з Беластока, „Чарамшына" з Чаромхі, „Маланка" з Бельска і „Добрая весть" з Брэста. Першыя сем наогул добра вядомыя нашым чытачам, таму займуся толькі апошнім. На мікробусе, які возіць замежных нам гасцей, апрача расейскага *logo* ансамбля быў і нямецкі „Gute Nachricht". Выканаўцы — хлопцы за трыццаць ужо, напэўна ўспелі ўжо пабываць і ў піянерыі, і ў камсамоле. Спявалі яны вельмі набожныя песні, а іх канферансье безупынна і гладка гаварыў пра рай. Нядаўна быў там у модзе Ленінаў рай, а цяпер ужо — Хрыстовы. Хопіць памяняць некалькі назоўнікаў і прыметнікаў, і з прапагандыста атрымоўваецца прапаведнік. А вось пад канец фэста нядаўнія камсамольцы праспявалі таварышам са спіска СЛД, замест „Інтэрнацыянала", каканічны нікейска-канстанцінопальскі „Сімвал веры" на сучаснай літаратурнай расейшчыне. Апрача спеваў госці з Усходу прадавалі і друкаванае слова; вось вытрымка з выдадзенай у Прэторыі (!) кніжыцы „Сердце человека": „Как и раньше, и в наши дни существует много «лжеапостолов, лукавых делателей, принимающих вид Апостолов Христовых»". Варта тут зрабіць агаворку, што не ўва ўсіх гэтых „лукавых деятелей" справы складваюцца так пявуча: вось наш слаўны „Стары беларус" рашыў свой лёс звязаць з парламенцкімі выбарамі, ды ад палітычна-рэлігійнага хвалявання расхварэўся старэча так, што аж у бальніцы апынуўся бедалага.

Варта яшчэ згануць пра аднаго асаблівага артыста, які на фэсце адыгрываў немалую, на жаль адмоўную, ролю. Была гэта гукаўзмацняльная апаратура. Паводзіла яна сябе як горкая п'яніца: а то свістала, а то драмала, а то нечакана „звальвалася з ног".

Друкаванае слова прапанавалі чытачам нашы літаратары. Міхась Хмялеўскі прадаў пад дваццаць кніжак „І так бывала", Віктар Швед — пад трыццаць сваіх паэтычных зборнікаў. А наш славуты „белавежац" Янка Целушэцкі прадаў каля сарака газет „Gazeta Hajnowska".

**Аляксандр Вярбіцкі**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*



*„Душкі з пушкі" — дзіцячы калектыў з Нараўкі.*

# 200-годдзе ў Орлі

17 мая г.г. у Орлі прайшоў урачысты сімпозіум прысвечаны 200-годдзю царквы Св. Міхаіла Арханёла. Царкоўныя святкаванні юбілею назначаны былі на 21 мая. На змест сімпозіума склаліся даклады а. Рыгора Сасны „Гісторыя прыхода і царквы ў Орлі” ды Антона Мірановіча „Гісторыя праваслаўя на Беласточчыне”. Знакамітасці гэтаму ўрачыстаму моманту прыдаў выхад друкам кнігі аўтарства а. Рыгора Сасны і Дарафея Фіёніка „Орля на Падляшшы. Гісторыя Царквы, горада і наваколля”. Кніга выйшла за кошт Беларускага гістарычнага таварыства і з'яўляецца на гэты момант самым вялікім і ўпарадкаваным зборнікам ведаў пра Орлю. Аўтары падзялілі яе на тры часткі. Першая прысвечана гісторыі Орлі і арлянскай воласці. У другой увага цалкам адведзена прагрэсу праваслаўя і Праваслаўнай царквы на гэтым абшары. На трэцюю частку — дапаўненні — складаюцца чатыры гістарычныя крыніцы, самай займальнай з якіх тастамент слонімскага і камянецкага старасты Міхаіла Богуша Багавіцінавіча — першага ўладальніка арлянскай воласці.

Юбілейныя пажаданні арлянскаму настаяцелю а. Аляксандру Такарэўскаму даслалі мітрапаліт Васілій, архіепіскап Сава, а з прывітальным словам выступілі прысутныя на сімпозіуме Яўген Чыквін і Яўген Вапа. Першы падараваў прыходу ікону, а другі — старшыня Беларускага саюза — уручыў настаяцелю канверт, кажучы, што яго змест прызначаецца канкрэтна дзеля далейшага прагрэсу праваслаўя і прыхода ў Орлі. Ад імя выдаўца кнігі пра Орлю, Беларускага гістарычнага таварыства, выступіў Алег Латышонак, кажучы, што кніга гэтая — доказ зацікаўленасці Таварыства найбліжэйшай яму гісторыяй, а таксама і доказ, што „жывем і жыць будзем на гэтай зямлі”.

На высокамастацкую якасць узбагацілі сімпозіум выступы двух царкоўных хораў: арлянскага прыхадскога пад кіраўніцтвам Дзмітрыя Мартыновіча і прафесійнага — слухачоў школы псаломшчыкаў у Гайнаўцы пад кіраўніцтвам а. Міхала Негярэвіча. **(ам)**

# Змена „Голасу”

У Белавежы выдаюцца аж два часопісы. Наколькі „Białowieżanin” рэдагаваны Анджэем Антчакам паказваецца рэгулярна два разы ў месяц і кранае важныя для гміны справы, настолькі гмінная самаўрадаўка „Głos Białowieży” з самага пачатку выразна пакульгвае — чарговыя нумары выходзілі аб'яднанымі за два месяцы, у дадатак з вялікім спазненнем. На працягу няцэлага года памянялася некалькі рэдактараў. Але, вось, у палове мая г.г. жыхары Белавежы захапіліся знянацку гэтай газетай. Чарговы нумар выйшаў у новай графічнай апрацоўцы, павялічаны да 12-ці старонак. Сам змест нумара адрозніваецца высокім, сказаць, прафесіянальным узроўнем. Ну і прапала інфармацыя, што газета з'яўляецца органам самаўрада, узамен прачытаем: месячнік мясцовага грамадства.

Новы састаў рэдакцыі, які ёсць аўтарам змяненняў у газеце, гэта Альжбета Яблонская (галоўны рэдактар), у прыватнасці кіраўнік выдавецкага аддзялення Белавежскага нацыянальнага парку, затым Эва Мароз-Кэчынская і Лех Навацкі — інструктар і дырэктар Белавежскага асяродка культуры. Той жа асяродак з'яўляецца і выдаўцом „Głosu”.

Навейшы нумар часопіса інфармуе над чым радзяць гмінныя радныя, што дзеецца ў жыцці каталіцкага і праваслаўнага прыходаў, што здарылася або здарыцца ў культурным жыцці мясцовасці. Ёсць інтэрв'ю з радным Васілём Скепкам, артыкул пра тутэйшыя велікодныя традыцыі, натрапім таксама на спробу высвятлення гісторыі белавежскага млына, затым на прэзентацыю аднаго з белавежскіх навуковых устаноў. Вольга Руско-Шуркоўская ў сваю чаргу працягвае ўспамін пра свайго дзядулю Антона.

Газета зараз будзе выходзіць тыражом 150 экз. У турыстычны сезон прадбачваецца версія на замежнай мове, з найважнейшымі інфармацыямі для турыстаў.

**Пётр Байко**

# Свята ў Нарве

Гмінная бібліятэка ў Нарве сарганізавала 14 мая Дзень беларускай культуры. А паколькі гэта быў яшчэ час, калі гучалі велікодныя прывітанні, быў ён пад знакам яечка-неспадзяванкі, якое дарылі выступаючым маладым артыстам. Неспадзяванкай на пэўна не было тое, што знайшлося „ўнутры” імпрэзы, сарганізаванай Алай Сяткоўскай, падрыхтаванай настаўнікамі і вучнямі школ з Нарваўскай гміны. Бо ці ж неспадзявана блíснулі расспяваныя „Лісічкі” з Ласінкі, школы ў Нарве і Ласінцы з п'ескамі? Гледачамі былі вучні і той, хто змог зайсці ў Дом культуры ў працоўныя гадзіны будняга дня (на жаль, артыстаў чакаў быў ужо аўтобус, каб развезці іх па вёсках дадому пасля 15.00).

„Лісічкі” захапілі не першы раз. Нельга не любавацца прыгожым голасам Паўлінкі Пашко, суладным спевам маленькіх усміхаючыхся прыгажунь, ангажаванасцю і талентам вядучай гурт Аліны Кос. Дарэчы, Ласінка, як кажа Ала Сяткоўская і не толькі яна, — вёска незвычайная, у ёй нараджаюцца і працуюць людзі згодныя і адораныя, такія, што ўмеюць біцца за сваё. Адной з такіх асоб ёсць спадарыня **Аліцыя Станько**, родам з Ляўкова — каханая дзецьмі ласінкаўскай школы „цёця” з філіі бібліятэкі.

Няма п'ес для дзяцей, то самой прыходзіцца мне іх пісаць, хоць я ніякая ні пісьменніца. І ў Беларусі яны не пішуцца. А дзеткі хочуць выступаць, асабліва калі паявіліся поспехі, — тады ўзрасла і ахвота. Але на рэпепетыцыях малечам даводзілася дрыжаць ад холаду.

П'еса „цёці” Алі — „Як звяры ў лесе школу будавалі”. Здаецца, сцэнка аж закароткая, каб гледачы паспелі налюбавацца касцюмамі, тэкстам, ігрой дзетак-акцёраў. А як жа выступала Мажэнка Анапюк — „Мішка” ў салідным футры, з міністэрскай „актоўкай”, а Геня Дудзіч — „Курачка”! А Зайка, а рокмен-Воўк Ваўковіч, а Лісіца-Хітрыца з куратарыі асветы! А агністы бойкі Пеўнік! А Каза-Дзераза на ботах-„катурнах”. А Баба-Яга, супермодная ў спадніцы міні! Не пасароміцеся такое паказаць на шырэйшым форуме!

Спадабалася таксама гумарыстычная сцэнка ў выкананні вучняў са школы ў Нарве пад кіраўніцтвам Ніны Абрамюк — „Першыя крокі самастойнасці”, пра лянівага і неспаслухмянага хлопчыка (сыграла яго бравурна Эва Грыняўіцкая). Здаецца, сілы і ахвоты ў пастаноўшчыкаў больш, чым на кароткую п'еску, што назіралася таксама і ў падрыхтоўцы дэкарацый і дэталях.

Міра Лукша, якая была таксама госцем дня беларускай культуры, ужо да свайго выступлення пацяху (а пасля ўголас) давала слова напісаць „нешта” для вучняў школ у Нарве і ў Ласінцы. Удалася ёй ужо адна п'еса — „Дзівасіл”, папулярная ў Беларусі (з ёй паходзіць вядомая песня пра маркотнага коціка Мікіту, якому прыйшлося жаніцца). Цяпер слова не вернеш назад — пішы! Вось кніжкі сёння разышліся хутка, кожная з аўтографам аўтаркі. Хоць, як заўважылі слухачы ў Нарве, суму ў іх шмат і нават трагедый пра нашае быццё тут. Але пакуль жывем на нашай Беласточчыне і будуць жыць нашы наступнікі, давайце будзем рабіць тое, што ўмеем, каб наша не загінула! Дзякуем табе, Ала!

**Міра Лукша**
*Фота аўтара*



*Велікодныя яечкі-неспадзяванкі для „Лісічак”.*

# Яновіч — у найлепшым стылі

Беларускае аб'яднанне студэнтаў і Беларускі гуртох ў Філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку правялі 15 мая г.г. супольную аўтарскую сустрэчу з пісьменнікам Сакратам Яновічам і Віктарам Шалкевічам — акцёрам і бардам з Гродна. Абодвух мастакоў слова спалучае падобнае ўспрыманне беларускай рэальнасці, што выяўляецца ў характэрнай ім плебейскай рыторыцы іхніх твораў. „У агародзе расцвітаюць буракі”, „пад акном спяць каты-авантурысты”, а свет бачыцца часта не вачыма чалавека, а... напрыклад, парсюка, што рыхтуецца на кастрацыю „п'яным Айватам-псіхапатам”, у якога „тырчыць іржавы нож за халявай”...

Ад пару гадоў С. Яновіч саступіўся з траекторыі беларускага грамадскага жыцця — надобра зашыўся ў сваіх родных Крынках, адкуль выцягнуць яго ў змозе хіба што выдатная фінансавая прапанова. Можна тут зрабіць высноўу, быццам заміламанне для матэрыі характэрнае ўсякаму творцу, які дасягнуў у сваім жыцці ўзроўню бестурботнай стабільнасці. З С. Яновічам, вядома, усё гэта не так проста. Варта аднак адзначыць, што С. Яновіча крынкаўцы ўяўляюць дакладна такім жа чынам. Прадаўшчыцы-хітрункі ў крынкаўскай краме прынцыпова не дадаюць пісьменніку залатоўку-дзве да рэшты, а на зробленую заўвагу нервова зрэагоўваюць: *No wie pan! Pan przecież i tak śpi na pieniądzach.*

Швагры і швагеркі па сённяшні дзень не даруюць пісьменніку, што пісаць стаў ён па-беларуску. А пачалося тое пісанне ў пятым класе пачатковай школы. Усе хлопцы пісалі вершы. Дзяўчаты не пісалі, бо былі адрасатамі тых жа *твораў*. Малы Сакрат, як і прыстойна крынкаўскаму адшчапенцу, пісаў не па-польску, а *па-руску*. Яго першай нарачонай — лірычным суб'ектам — была Шура (Аляксандра, Алеся). Праўда, пісьменнік тут разоў пяць засцерагаўся, што ў каханні гэтым не было ніякай эротыкі. Пазней была Ала, якая ў ходзе далейшых жыццёвых падзей знайшла сабе прыстань у Штатах. А Райка — трэцяя, — як назваў гэта пісьменнік, „змылася ў Аўстралію”.

— Прыгожа мецць мужа, які піша вершы, — звярнуўся С. Яновіч да жаноцкай публікі, — ale wy tego gorzko pożałujecie!

У 1949 годзе пісьменнік перажыў шок. У тым жа годзе С. Яновіч прыехаў у Беласток вучыцца ў тэхнікуме. Тут ён адкрыў адну неспадзяваную акалічнасць — у Беластоку ўсе гаварылі па-польску. У родных Крынках былі толькі тры такія асобы: настаўнік, ксёндз і камендант паліцыі. Не заважыла гэта аднак на жыццёвым выбары пісьменніка. Па-польску ён піша адно па заказу і дзеля хлеба, але па натхненні — выключна па-беларуску. Беларускае слова для яго як рэлігія. Галоўным рухвом Яновічавага пісьменства прэтэнзія да беларусаў і злосць за іхні брак жыццёвай думнасці. Героем Яновічавых твораў з'яўляецца нешчаслівы чалавек — нешчаслівы па віне гісторыі або сваёй. Людзей такіх, — кажа пісьменнік, — якім жыццё не ўдалося, прынамсі 90 працэнтаў.

— Я ўвогуле пішу пра тое, як рызыкоўна жыць у свеце.

Пісьменнік аднак дадае, што да ціхай роспачы даводзіць яго брак рэакцыі і абурэння з боку тых, каго ён у сваіх творах „абражае”.

— Што ж, людзі паміраюць ад голаду, сіфілісу..., але не ад браку культуры. Культура гэта неабавязковая дзялянка чалавечай актыўнасці.

**Аляксандр Максімюк**

# Паслясвяточны ўспамін

Няма лепш, як мець добрага суседа. Калі толькі выглянеш на вуліцу, заўсёды яго сустрэнеш. Вось і цяпер: сусед ужо мяне чакае. Пэўна, хоча штосьці расказаць. Падышоўшы, пачынаю першы:

— Добры дзень, дзядзька.

— Добры, ці не добры? Не ведаю, як табе, сынок, адказаць.

— А чаму ж гэта? — здзіўлена пытаю. — Можа, прыхварэлі за свята?

— Не, здаровы я, як ніколі. Толькі цяпер не гаворыцца „Добры дзень", хаця ён і найлепшым будзе. Яшчэ праслаўляем Ісуса Хрыста і Ягонае ўваскрэсенне і таму надалей вітаемся словамі „Хрыстос Уваскрос". Запамятай гэта, — сказаў дзядзька і прыціх.

— Як жа гэта так? Ужо ж Вялікдзень прайшоў, — гавару і чакаю, што сусед адкажа.

— Святы прайшлі, гэта праўда. І, дзякуй Богу, спакойна прайшлі. А праслаўляць Госпада і Ягонае ўваскрэсенне мы павінны да Узнясення Яго на неба. А гэтага мала хто прытрымліваецца. Сароміцца гэтых слоў, але дурное гаварэць, праклінаць, абзываць другіх — на гэта адвагу маюць. Так, так, сынок, не хіхікай, — са злосцю прамовіў мой субяседнік.

— Ой, што вы, дзядзька! Я вельмі рады, што вы мяне падвучылі. Але давайце сёння пагаворым аб мінуўшым Вялікадні.

— Давай, давай. Я вельмі рады добрае ўспамінаць, — адказаў мой сусед.

— Хачу запытаць, як вы свята правялі.

Дзядзька павесялеў і ажывіўся:

— Гасцей было вельмі многа. І сын наведаў з дзяўчынай сваёй.

— А што, ужо якуюсьці мае?

— Не якуюсьці, — агрызнуўся сусед, — толькі вельмі блізкую і не на смех. Толькі чакай як скажа: „Бацьку, вяселле гуляем".

— А яшчэ можна пачакаць, няхай вучобу закончыць.

— Ведаеш, сынок, чаканне да дабра не давядзе. А так, пакуль сілы ёсць, і вяселле лягчэй адтаптаць. Знай, што і цябе папросім. Ты ў нас першы госць.

— Дзякуй вам за памяць. А яшчэ каго гасцявалі? — перабіў я старому.

— Ты ведаеш, мне і не снілася, што госці на аўтобусе завітаюць. І то дзякуючы Яўгену Чыквіну, галоўнаму рэдактару „Праваслаўнага перагляду". Добры чалавек, свой, аддадзены беларус, наш, праваслаўны. А за веру сваю сцяной стаіць. Доказам гэтага была яго дзейнасць як былога пасла. І ведай, калі будзе зноў кандыдаваць у паслы ў надыходзячых выбарах, пайду галасаваць і на яго голас аддам. Суседзям таксама параю тое ж самае зрабіць. За яго чырванець ад сораму не будзем, ён за нашы справы пастаіць. Яны яму блізкія, неадноўчы гэта даказаў. Ён не аднаму дапамагаў і дапамагае. Хаця б узяць Югаславію: калі ішла вайна, ён праваслаўным сербам, каб маглі перажыць, харчовыя прадукты вазіў, і ў Беларусь дары збіраў. Усё пад яго кіраўніцтвам. Мала такіх людзей сустракаем у сённяшні час. І вось гэты чалавек у свята прывёз да мяне гасцей са Швейцарыі. Былі гэта людзі пратэстанцкага веравызнання. Вельмі ім у нас спадабалася. Яны заваражаны нашай Беласточчынай. Пабывалі ў Гайнаўцы на багаслужбе. Вельмі спадабаўся ім наш праваслаўны абрад. Калі прыйшлі да мяне, віталіся словамі „Хрыстос Уваскрос", хаця няскладна, аднак, зразумела.

— А што іх цікавіла?

— Нашае жыццё. Паглядзі, — кажа сусед, — у мяне няма чаго аглядаць. Гаспадарка, як гаспадарка. На даўнейшы час была адпаведнай, а цяпер што? — Цяпер гэта нішто. Дзесяць гектараў, — гэта не гаспадарка, а драбніца, смецце. Цяпер сотнямі гектары лічаць. Гаспадаркі спецыялістычныя, як іх цяпер называюць, абрабляюць зямлю агрэгатамі. З конікам і малым трактарам нам з імі не па дарозе. Наша механізацыя была добрай у шасцідзесятыя гады. Тады, калі я перасеўся з каня на трактар, думаў, што ажыў, як бы памаладзеў. Цяпер гэта ўжо пәражытак тэхнікі. Здаецца, і трактар слабейшым стаў. А можа сам я пастарэў? Ціснеш, ціснеш на педаль, а ён крэкча і крэкча і амаль стаіць на месцы. Вось і так гаспадарка ідзе ў заняпад. Ведаеш, аб гэтым ім і гаварыў я. Пыталіся, ці ў Еўропу выбіраюся. Не, кажу, ніякай Еўропы мне не трэба. Даволі мне сваёй Еўропы, у якой я нарадзіўся і ў такой дажыву. Тут жылі мае дзяды і прадзеды і добра ім было, хаця па свеце не можна ездзіць было і то не наракалі. А цяпер гэта другі свет. Едзь, куды хочаш, гавары, што хочаш. Чаго ж я буду шукаць? А дзе я знайду такі край, як мая Беластоцкая зямля? Гэта мая маленькая айчына. Гэта нічога, што яна маленькая. Яна вялікая і дарагая сэрцу майму. Так папросту адказаў я ім. Ага, яшчэ пыталі, ці коніка гадую. Ой, даражэнькія! Не памятаю, калі яго італьянцы з'елі. І вось на такіх гутарках прайшоў наш час. Вельмі яны былі задаволены нашай размовай. А я цешыўся, што вось і сам аказаўся важнай персонай, бо слухаюць мяне з цікавасцю загранічныя госці. Развіталіся мы як старыя сябры. Спадабалася ім наша вёска і беларуская гасціннасць. І так вось свята праляцела, яшчэ адно ў маім жыцці. І добра, што не ў адзіноце. Цікава, ці наступнага дачакаю.

— Дачакаеце, дачакаеце. Вы яшчэ не такі стары.

— Ведаеш, старасць тут ні пры чым. Невядома, колькі для мяне вызначана святаў святкаваць, але адно ведаю: мінулага не вернеш. А шкада! Добрае хутка праляціць і яшчэ хутчэй забываецца.

— Дзядзька, — кажу, — перастаньце наракаць і ўспамінаць былое. Мы яшчэ з вамі пажывем і не адзін Вялікдзень адсвяткуем.

— Ты, дык напэўна, а пра сябе я не ведаю, — як бы з болем апусціў галаву і рушыў да дому. А па яго твары пакацілася сляза.

Не ведаю, ці гэта сляза ўспамінаў па Вялікадні, ці сляза аб невядомым жыцці? Вось такі гэта лёс чалавека, падумаў я. Радасці на некалькі хвілін ці гадзін, а надалей перш шэрае жыццё. Толькі пражываючы ў сям'і гэтага не адчуваеш. І вось патрэбна добрае слова іншага чалавека. На жаль, у жыцці часта якраз яго не хапае.

**Грыша Мароз**

Васіль Сакоўскі

# З мінулага маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

*(працяг;*
*пачатак у 18 н-ры за 1996 год)*

Суседняй ад нас вёскай з захаду ёсць Зубава. Цяпер гэта ціхая і спакойная вёска, можна сказаць, вёска-пенсіянерка. А калісьці Зубава было о-го-го! Яно ззяла і грымела на ўсю аколіцу як у дасловным, так і пераносным сэнсе.

Зубава стала, можна сказаць, эксперыментальнай пляцоўкай для калектыўнай сацыялістычнай сельскай гаспадаркі і кузняй нашых партыйна-афіцэрскіх кадраў.

Зубаўляне вельмі хутка і беспамылкова зразумелі, што народная ўлада — гэта вельмі добры час для нізоў рабіць кар'еры. Зразумелі таксама і тое, што не маючы дастатковай адукацыі, найпрасцей і найхутчэй можна зрабіць кар'еру па партыйнай лініі. Першым крокам да такой кар'еры было тады звярнуць на сябе ўвагу палітычнага начальства. А зрабіць гэта можна было рознымі спосабамі: стаць актыўным партыйцам, вербаваць новых членаў у рады партыі, арганізаваць новыя партыйныя ячэйкі, дружыны ОРМО, засноўваць калгасы, выкрываць кулакоў і іншых ворагаў народнай улады, быць даносчыкам і г.д.

Трэба прызнаць, што тагачасная народная ўлада ўмела вяла прапаганду і хутка падрыхтавала цэлую армію сваіх янычараў, у станоўчым сэнсе, канешне. Помніцца мне, што і ў маёй вёсцы было іх нямала. Адзін з іх, напрыклад, зусім неадукаваны хлопец, трапіў у SP (Служба Польшчы), адтуль паслалі яго на курсы трактарыстаў. Там так насякнуў ён ваяўнічымі сацыялістычнымі ідэямі класавай барацьбы, што напісаў бацьку ліст з патрабаваннем зачытаць яго на вясковым сходзе. А ў гэтым лісце чорным па беламу было напісана, што як прыедзе дадому, то будзе біць кулакоў. Быў ён здаравенным хлопцам, а кулачышчы меў проста пудовыя. Ад такога кулака напэўна не ўстаяў бы на нагах нават самы мацёры кулак. На кулацкае шчасце бацька нашага патрыёта не толькі не прачытаў сынаў ліст на сходзе, але яшчэ востра аблаяў яго за гэта. Так абмінуў здаравецкі юнацкі кулак нашых вясковых кулакоў, на абяцанках усё і кончылася...

Але вернемся ў тагачаснае Зубава — нашу вёску-актывістку. Там кіпіць, там бурліць, перабудоўваецца жыццё на новы лад, на новы стыль. Там моцная партыйная арганізацыя, там дружыннікі ОРМО, там адзін з першых у нашай аколіцы калгас...

Менавіта ў такім Зубаве гасцяваў аднойчы ў дваюраднага брата мой бацька. У гасціне было многа зубаўлян: як актывістаў, так і нармальнага народу. Падвыпіўшы пайшла гаворка і пра калгасы. Калі хтосьці з гасцей расхвальваў калгаснае жыццё і быў моцна за тым, каб як найхутчэй арганізаваць іх ва ўсіх нашых вёсках, мой бацька наіўна прабаваў крыху не згадзіцца з яго аптымізмам наконт калгаснага жыцця, так проста, па-сяброўску.

Хутка пасля гэтай гасціны бацьку выклікалі ў бельскую бяспеку, дзе чакаў яго вельмі нямілы сюрпрыз. Даведаўся менавіта аб тым, што ў акалічных вёсках вядзе ён прапаганду супраць калектывізацыі. Было гэта вельмі сур'ёзнае абвінавачанне, ды і патрактавалі яго таварышы па зброі (бацька быў ужо членам партыі) не так міла, як вораг-немец у час самагоначнай справы. Не частавалі сігарэтамі і міленька не размаўлялі з ім, а толькі падкрыквалі на яго і дэкламавалі штораз страшнейшыя параграфы крымінальнага кодэкса за ўчыненае ім злачынства. З гэтай, здавалася б, бязвыхаднай сітуацыі бельскія убэшнікі бачылі толькі два альтэрнатыўныя выхады: або ісці ў турму, або ... запісацца ў калгас, які пачыналі таксама арганізаваць і ў нашай вёсцы. Тады ўсе яго грахі даруюцца. Бачыце, як разумна і проста!?

Мой бацька падумаў, падумаў і паступіў так, як робіць польскі электарат у час выбараў сваіх прэзідэнтаў — выбраў меншае зло. Меншым злом — на яго тадышнюю думку — была Spółdzielnia Produkcyjna „Nowe Życie" w Pilipkach. І так мой татка, як кажуць, горка заплакаў і з ахвотай пайшоў у калгас. І сапраўды, усе цяжкія абвінавачанні аўтаматычна былі з яго зняты.

Так мая сям'я стала калгаснікамі, распачынаючы новае жыццё ў калгасе „Новае жыццё". Праўда, парадаваць новым жыццём нашай сям'і доўга не ўдалося, бо па нейкім часе нас з калгаса выкінулі. Адразу выдзялілі абы-якое поле і аблажылі яго высокімі падаткамі. Збожжавага і бульбяного ўкладу, унесенага бацькам пры арганізацыі калгаса і цвёрда гарантаванага „Statutem Spółdzielczym" не аддалі, бо быў нераджай — сказалі. А воля калгаснікаў была тады і законам...

*(працяг будзе)*

# Шакалад, „калегіум" і пытанне да прэм'ер-міністра

Быў я ў Беластоку, а едучы да ўнукаў падумаў, што брыдка зайсці да іх з пустымі рукамі. Не меў я грошай і вырашыў пайсці ў краму і проста ўкрасці ці можа пазычыць, таму што калісьці там ім аддаў бы і прызнаўся б, што ўзяў шакалад без платы і іх ведама. Аднак сталася інакш: мяне прыкмецілі як я хаваў той шакалад у кішэню. Прыйшлося ісці ў суд і плаціць 50 злотаў за тавар, які каштаваў 1 залатоўку. Ці я злодзей? Хіба так. Але злодзей таксама грамадзянін. І таму маю пытанне да нашага прэм'ер-міністра пана Цімашэвіча. Калі ён сам „Нівы" не чытае, дык пэўна чытаюць яго дарадчыкі, таму і чакаць буду адказу:

Panie premierze, za kradzież jednej czekolady Kolegium ukarało mnie grzywną 50 zł. Ale czy zostaną ukarani ci, co kradną miliardy, oszukują z podatkami? Czy nie jest kradzieżą to, że młodzi rolnicy przekazali gospodarstwo swoim dzieciom, a sami dalej na nim pracują, otrzymując przy tym renty inwalidzkie? Czy to nie jest kradzież? Czy kiedykolwiek zostaną ukarani skorumpowani lekarze, którzy wydają fałszywe zaświadczenia? Tych pytań można by postawić znacznie więcej, ale czy kiedykolwiek będzie na nie odpowiedź.

**Дзядзька Захар**

# Позірк у мінулае

**4 чэрвеня**

1941 г. — у Заграбе пачалася канферэнцыя прадстаўнікоў марыянетачнай незалежнай харвацкай дзяржавы ды нямецкіх, венгерскіх і італьянскіх акупантаў. Вырашана там было высяліць з Босніі чвэрць мільёна сербаў, а іх месца засяліць такой жа колькасцю славенцаў, названых славенскімі харватамі, каб, у сваю чаргу, звольніць месца немцам, якія Славенію далучылі да Рэйха. У выніку наступіўшага тэрору каля двухсот тысяч сербаў уцякло са сваіх дамоў, столькі ж прымушана было перахрысціцца ў харватаў, а сотні тысяч былі пазбаўлены жыцця.

**5 чэрвеня**

754 г. — памёр Баніфацый, апостал Германіі. Народжаны ў 673 г. у Англіі, стаў манахам і падаўся ў Рым, дзе папа Грыгорый II назначыў яго місіянерам. У 722 г. быў узведзены ў сан біскупа і атрымаў задачу прапаведаваць хрысціянства ў Германіі, дзесяць гадоў пазней стаў арцыбіскупам; былі гэта толькі тытулярныя назначэнні, без дыяцэзіі. Задачу арганізаваць дыяцэзію атрымаў Баніфацый пазней, заснаваў яе ў Майнцы і стаў яе адміністратарам у 745 г. У 752 г. адказаўся ён ад пасады і падаўся місіянерам на поўнач; два гады пазней быў забіты фрызкімі язычнікамі.

1848 г. — у Заграбе пачаў працу першы агульнахарвацкі сабор, мэтай якога было аб'яўленне незалежнасці Харватыі ад Венгрыі ў рамках імперыі Габсбургаў. Сабор урачыста аб'явіў незалежным ад Будапешта банам Ёсіпа Елачыча. Вырашана было, што Трыадзінае Каралеўства Харватыі, Дальмацыі і Славоніі будзе самастойна ведаць усімі справамі, апрача замежнай палітыкі, фінансаў і арміі, якія асталіся ў кампетэнцыі цэнтральнага ўрада ў Вене. Дэлегаты дамагаліся таксама далучэння да Каралеўства Ваяводзіны і славенскіх зямель Гарыцыі, Істрыі, Штырыі, Карынтыі і Крайны. У ходзе далейшых падзей улады ў Вене падзялілі аднак Харватыю на правінцыі, цалкам падпарадкоўваючы іх цэнтральнаму ўраду.

**7 чэрвеня**

421 г. — у Канстанцінопалі адбыўся шлюб імператара Феадосія II з прыгожай і адукаванай афінянкай Афінай. Маладая, дагэтуль язычніца, ахрысцілася і прыняла імя Еўдакіі, стаўшы пазней палымянай нававернiцай. Дзякуючы яе захадам у 425 г. быў заснаваны Канстанцінопальскі універсітэт.

1896 г. — нар. Імрэ Нодзь, венгерскі змагар за незалежнасць. Да камуністычнага руху далучыўся падчас I сусветнай вайны. У міжваенны перыяд, у 1929—1944 гг. прабываў у палітычным бежанстве ў СССР. Вярнуўшыся на радзіму займаў розныя міністэрскія пасады, даходзячы ў 1953 г. да звання прэм'ер-міністра, ад якога аднак быў два гады пазней адхілены за празмерную незалежнасць ад Масквы. Падчас рэвалюцыі 1956 г. Нодзь ізноў стаў на чале венгерскага ўрада, праводзячы нейтральную і незалежную ад Варшаўскага дагавора палітыку. Пасля савецкай інтэрвенцыі арыштаваны ў лістападзе 1956 г. і расстраляны 30 чэрвеня 1958 г. **(Ш)**

# *Парнасік*

### Любоў замірае

У людзей любоў замірае
І кожны пра гэта знае.
Цяжка нам да любві вярнуцца,
Лягчэй ад яе адвярнуцца.
Але нянавісць расце
І плён свой буйны нясе;
Дзецюкі забіваюць старых,
А старыя маладых.
Прапала спагада
І ці ёсць на гэта рада?
Ёсць! — Евангелле Хрыстова,
Вестка добрая і Божае слова.
Толькі яно можа свет спасці,
Толькі трэба духоўна расці.
Хаця людзі больш любяць *крымiналы*,
А гэта не збавенне, а толькі правалы.
Чалавек правальваецца ў балота;
Відаць, сёння гэта геройства і мода.
Перад Пасхай і ў самое свята,
Калі Хрыстос быў распяты,
Многія „хрысціяне" ругаюцца
як шаўцы.
Як і з чым пойдуць яны да Збаўцы?
З нічым, толькі з грахамі і голай
душою —
У пекла і да гною.
Дні Апакаліпсіса прыбліжаюцца,
Падзенне ў людзей паднімаецца,
Усё ўгару і ўгару — каб упасці
І навекі ў цемры прапасці.
„Навеянае Апакаліпсісам"
Мар'і Пень —
Там раскрыты чалавечы цень.
Памятайце аб гэтым, людзі:
З нянавісці нічога добрага не будзе!

**Мікалай Панфілюк**

### Пры рынку

Пры санацыі я радзіўся,
Пры камуне пражываў.
Дзякаваць нам трэба Герку,
Што сялянам пенсіі даў.
Здорава тады жылося:
Ці рабіў ты, ці ляжаў,
То гарэлка прост лілася,
Прыкусіць было чым.
— І цяпер жывецца добра, —
Бізнесмен мне гаварыў, —
Бухгалтары так усё круцяць,
Каб падаткаў менш плаціць.
Каб казну мне ашукаць,
Ім законы трэба знаць,
І падаткі так адводзіць,
Каб чорт праўды не спазнаў.
Вось за гэта, мае мілы,
Нас падаткам аблажылі.
З пенсіянераў лупяць шкуру,
Каб у бюджэце латаць дзюру.
Бізнесмены гэтым рады,
Што абдураныя ўрады
За аборты ўсё дзяруцца,
І ў іх праўды не даб'юцца.
А старэчы ўсё мазгуюць,
Як за пенсію ім пражыць,
Наракаюць, што пры рынку
Прыйдзецца аддаць канцы.

**Мікалай Лук'янюк**

### Ліда з Беластока

Як прыедзе панна Ліда,
Бягуць з ёю дзеткі.
І рукамі зловіць рыбу,
Ёй не трэба сеткі.
Потым мяса пераробіць,
Грыбоў назбірае,
Пойдзе пазбіраць маліны,
І іх многа мае.
Як пашые, кручком звяжа,
То сапраўды цуда.
Яе хатка як палац,
Думалі, што буда.
І чаму ж той прыгажуні
Не ўмелі цаніці?
Думалі, што з сіратой
Нельга добра жыці.

**Мар'я Пень**

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне! Прысніўся мне хлеб, і я не ведаю, што гэта абазначае. Быццам я знаходжуся за граніцай, у Бельгіі. Стаю ў хлебнай краме ля прылаўка. Прашу, каб прадавец прадаў мне хлеб, які напамінае мне вясковы хлеб, такі, які пяклі ў нас: прамавугольны, у бляшках. Я хачу ўзяць адзін кілаграм, ведаю, што гэта будзе тры чвэрці буханкі. Хлеб свежы, пахучы.

Прадавец не прадае мне хлеба, а дае чатыры белыя булачкі жанчыне, якая стаіць за мною. Чаму? Цяпер жа мая чарга! Адвярнуўшыся, я бачу, што гэта старая жанчына. Яе ж, вядома, трэба абслужыць без чаргі. Я гладжу яе па плячах, каб яна не нервавалася.

Раптам я апынулася ў самым канцы чаргі, але прадавец прадае мне хлеб.

І вось я ўжо дома. Уваходжу ў свой пад'езд, а тут нейкія голькі з лісточкамі параскіданы па падлозе. Я падумала, што, відаць, нехта паабрэзваў кветкі, а зеляніну павыкідаў у калідор. І ўсё. Што будзе, Астроне?

**Ядзя**

Ядзя! Хлеб, ён у сне можа мець рознае значэнне. Калі сніцца, што хлеба на полі поўна — чакае чалавека поспех і багацце. Калі ж бачым у сне печаны, белы, свежы хлеб — чакае чалавека задавальненне і здароўе. Хлеб жа чорны, чэрствы прадвяшчае цяжкую працу і беднасць.

Думаецца, што хлеб, які прысніўся табе, быў на нешта добрае. Ён быў свежы і пахучы, а найважнейшае — быў свойскі, родны. Значыць, можа здарыцца нешта добрае ў тваёй сям'і, тым больш, што і старая жанчына, якую ты гладзіла па плячах, гаворыць за гэта.

Што датычыць тых раскінутых галінак, дык яны не маюць вялікага значэння. **Астрон**

# Крыжаванка



**Гарызантальна:** 2. жыхар Батумі, 4. сталіца Пакістана, 6. сусед Пакістана, 7. частка баксёрскай схваткі, 9. скандынаўская пані, 11. ізаляцыя, 12. горад ва Узбекістане, 13. прадукты харчавання, 15. коўкае, хімічна простае рэчыва, 17. вынаходца тэлеграфа, 18. роздум, 19. частка адзення.

**Вертыкальна:** 1. кофта без каўняра, 2. жаночае імя, 3. нямецкі грузавік, 4. паказальнік, 5. раён Кітая паміж Тыбетам і Кіргізіяй, 6. мусульманства, 8. аўтар „Боскай камедыі", 9. месца ў тэатры для адпачынку падчас антракту, 10. сталіца Башкірыі, 14. беларускі народны інструмент у выглядзе дудкі, 16. Серж, французскі балетмайстар расейскага паходжання, 17. горнае ўзвышша з плоскай вяршыняй.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 15 н-ра:**

**Гарызантальна:** карыта, Елабуга, замена, набытак, абабак, Лондан, інвалід, нацызм, фанфара, Гавана.

**Вертыкальна:** Бернал, Харбін, хустка, казка, румба, танга, бівень, балван, Кадзан, Осака, Дрыса, німфа.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Міхалу Байко** з Беластока.




# *Ніва*

**„Niwa"**, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435-022.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва". Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1997 r. upływa 5 czerwca 1997 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,90 zł, a kwartalnie — 24,70 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

# Пародыі

### Твой партрэт

*П'ю партрэт твой,*
*Усё выпіваю,*
*І мацнею, і веру,*
*І надзея ў світанак*
*У грудзях расцвітае.*

**Міхась ШАХОВІЧ**

Ты даслала на памяць партрэт,
Каб цябе не забыў я ніколі.
На партрэт я паклаў катлет,
Агуркоў і салату з фасолі.
На партрэт я камсы навалію,
Кілбасы, маянэзу і сыру.
А пасля шчэ гарэлкі наліў,
І бульбянага кінуў гарніру.
Запрасіў я сяброў на пратрэт,
Каб надзея ў грудзях расцвітала.
Ад закусак хай будзе след
На партрэце, які ты даслала.
Мы гарэлку пілі да зары,
І ўспаміны лавілі на вуду...
Няхай помняць мае сябры
Твой партрэт, калі я забуду.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# Хатнія сентэнцыі

## Надзеі Руско

* Чаму замыкаеш хлява, калі не маеш ні каровы, ні каня.
* Нашы бабы не прадуць, не вышываюць — тэлевізар аглядаюць.
* Не ругайся — кніжкай лепш займайся.






Мал. А. КАРШАКЕВІЧА

# Рамонт кватэры

Запрасіў я маляра — пафарбаваць кватэру. Пакуль ён фарбаваў, запэцкаў паркет, таму давялося выклікаць паркетчыка.

Той узяўся за паркет і між справай умудрыўся парваць нейкі провад. Я вымушаны быў шукаць электрыка.

Электрык, каб яму жыць сто гадоў, паправіў усё ўмомант, але раскалупаў сцяну. Я выклікаў муляра.

Муляр вельмі кваліфікавана пераклаў сцяну, але ўпусціў цэглу і раскалоў умывальнік. Я пайшоў шукаць сантэхніка.

Слесар-сантэхнік, пакуль мяняў умывальнік, паразбіваў усю кафлю, таму тэрмінова спатрэбіўся абліцоўшчык. Той, у сваю чаргу, пабіў люстэрка, і я выклікаў майстра па люстэрках. Майстар, калі вешаў новае люстэрка, парваў праводку, таму я зноў пайшоў па электрыка. Каб узнавіць усю праводку, ён некуды зашпандорыў кавалак водаправоднай трубы. Тады я пачаў шукаць водаправодчыка. Пасля яго давялося клікаць тынкоўшчыка: той пазамазваў усе дзіркі, і цяпер засталося схадзіць па маляра, каб зноў усё пафарбаваць.

Маляр з'явіўся. Пафарбаваў пакой. На гэтым усё скончылася, справа была толькі за паркетчыкам, бо паркет меў выгляд — горш няма куды. Паркетчык адразу ж узяўся за справу, але чамусьці ўвесь час курыў цыгарэту і акуркі кідаў на падлогу. Загарэлася стружка, і маё жытло згарэла.

Зараз я жыву ў гасцініцы і ўрэшце адчуваю сябе шчаслівым. Адно толькі непакоіць: калі здарыўся пажар, я паспрабаваў выратаваць прыёмнік, але ён трохі пашкоджаны, і трэба было б выклікаць радыётэхніка. А грошай у мяне няма. Аднак, можа, гэта і добра, што не прыйдзе радыётэхнік, бо заплаціць за спаленую гасцініцу я, канечне ж, ніколі не змагу.

**Ясен АНТАЎ**

*Пераклаў з балгарскай*
*Уладысь ЦВЯТКОЎ*

# „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Ну, і як нарачоная адказала на тваё сватанне?
— Прасіла крыху пачакаць.
— Чаму?
— Сказала, што я з'яўляюся апошнім, за якога яна выйдзе замуж.

* * *

— Учора я прызнаўся маёй нарачонай да ўсіх сваіх любоўных пагулянак.
— І што?
— Нічога не памагло. Праз месяц шлюб...

* * *

— Мамачка, гэты дзедка, што жыве насупраць нас, учора папрасіў маёй рукі!..
— Як гэта так?
— Спытаў: „Прыгожая дзяўчына, ці не хацела б ты стаць удавою па мне?"

* * *

— Мамачка, выйшла б я за Юрку, але ён не верыць у пекла.
— Не турбуйся, дачанька. Як толькі з табою ажэніцца, дык хутка паверыць.

* * *

Размаўляюць бацька дзяўчыны з яе нарачоным:
— Дачка мне паведаміла, што яна рашыла выйсці замуж за вас. Ці рашылі вы, калі гэта адбудзецца?
— Вырашэнне гэтага пытання пакідаю за вашаю дачкою.
— Шлюб будзеце браць у ЗАГСе ці ў царкве?
— Гэта вырашыць яе маці.
— А з чаго будзеце жыць?
— Гэтую справу аддаю ў вашы рукі.

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:
— Заручылася я з Юркам; ён быў зусім іншы ад усіх другіх знаёмых хлопцаў.
— А ў чым заключалася іншасць?
— Толькі ён адзін папрасіў маёй рукі.

* * *

Дзяўчына да залётніка:
— Не магу ўжо сцярпець гэтых тваіх паводзін!
— А што ж я такое раблю?
— Прыходзіш да мяне дзень у дзень, бацькі мае выходзяць з дому, а ты нават не прабуеш мяне пацалаваць. І яшчэ будзеш здзіўляцца, што дзіця без пары нарадзілася.

# Сардэчныя ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка, ад часу, калі я засталася ўдавой, мінула ўжо сем гадоў. Маю дачушку і сынка. Цяпер мне 35 гадоў. Гэта праўда: я вельмі кахала свайго мужа. Першыя тры-чатыры гады я — як бы і не жыла. Як аўтамат, механічна хадзіла на працу, даглядала дзяцей і сачыла за іх вучобай, варыла, мыла бялізну, прыбірала ў хаце.

Крыху памагаюць мне бацькі, але ў іх няма ўжо здароўя. Мама даўно мне ўжо раіла пачаць некуды выходзіць, сустракацца з людзьмі. Лягчэй табе будзе на душы, казала яна, ды і чалавека мо якогась знойдзеш, каб быў табе муж і дзецям бацька.

А ў маёй галаве быў толькі ён, мой адзіны, каханы, мой муж, які загінуў так недарэчна, едучы на матацыкле. Ехаў надта хутка, на павароце кінула яго на левы бок. Ударыў галавой у дрэва і загінуў на месцы, пакінуўшы нас у адзіноцтве і смутку.

Зманіла б я, калі б сказала, што пазней у маю галаву не прыходзілі розныя думкі. Я ж яшчэ не старая жанчына, без мужчыны абысціся цяжка. Але думалася заўсёды: ці выпадае? што скажуць людзі? як можна запляміць памяць мужа? мо калісьці пазней...

І нават, калі ўжо дзеткі падраслі, і я пачала туды-сюды выходзіць, дык неяк баялася нават цікаўных позіркаў мужчын, яны як бы абражалі мяне. Я старалася бываць у жаночых кампаніях, каб хаця ніхто нічога не сказаў.

Але аднойчы я пазнаёмілася з чалавекам, які зрабіў на мяне вялікае ўражанне. Сэрцайка, гарантую, што ён быў бы маім дзецям добрым бацькам. Але ці зможа ён кахаць мяне, з дзецьмі, старэйшую на сем гадоў за яго?

А ён гаворыць, што фактычна па-сапраўднаму пакахаў першы раз у жыцці. Дагаджае мне і дзецям, як толькі ўмеее.

І, уяві сабе, вось мы з ім „ходзім", і ніхто нічога не гаворыць, быццам я цягаюся ці здрадзіла памяці свайго мужа. Наадварот, бацькі вельмі цешацца, рада і мая сястра, што можа маё жыццё павесялее цяпер. Блізкія сяброўкі таксама адабральна ўсміхаюцца. Ды і нават у кампаніі, дзе мы цяпер заўсёды паяўляемся ўдваіх, змяніліся адносіны да мяне. Раней яны, калі і былі нават спагадлівыя, дык усё роўна можна было адчуць, што мяне тут толькі шкадуюць. А цяпер да мяне адносяцца з нейкай пашанай, а некаторыя нават дзівяцца: глядзі ты, і з дзецьмі, і старэйшая, а якога хлопца да сябе прывязала.

Міленькае Сэрцайка, хачу табе прызнацца, што ён мне ўжо і шлюб запрапанаваў. А я думаю, ці не грэх гэта, ды ці наогул варта нешта пачынаць, калі і так вядома, што яно мусіць скончыцца? Цяжка паверыць у тое, што гэты хлопец праз нейкі час не знойдзе сабе маладзейшую... А як я тады змагу жыць, калі ізноў застануся адна? Цяпер жа будзе яшчэ горш, бо буду ведаць, што мой муж жыве, ды не са мной. Што рабіць, парай, Сэрцайка!

**ІРЭНА**

Ірэна! Калі так падыходзіць да справы, дык ніхто ніколі не павінен ні жаніцца, ні выходзіць замуж. З жонкай і мужам — так, як з тэлевізарам: або ўдасца або не. Трэба разлічваць на тое, што ўсё будзе добра, і многа ў гэтым залежыць ад нас саміх.

Сустрэнеш вось чалавека, якога ты кахаеш (так, так! — хаця ты ў гэтым не прызнаешся), і пройдзеш міма, а пасля будзеш шкадаваць. Жыццё, яно ўцякае хутка. Не паспееш агледзецца, як ужо такога шанцу мець не будзеш. Дык тым больш трэба трактаваць жыццё як цудоўны падарунак, які варта выкарыстаць, калі ты ўжо яго атрымала.

Лічыцца хвіліна, тое „цяпер", якое можа стацца, пры адпаведным ходзе спраў, „заўсёды".

**СЭРЦАЙКА**